Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 28 (4879) 15 ліпеня 2016 г.



# Настрой — юбілейны!

## Віцебск вітае гасцей. Госці вітаюць Віцебск

* * *

*Закружацца гарэзлівыя дні*
*У несупынным*
*коле-карагодзе.*
*І замігцяць святочныя агні:*
*«Славянскаму базару» —*
*чвэрць стагоддзя!*

*Мы сёлета спаткаліся наноў,*
*Каб урачыстую адзначыць*
*дату*
*Пад пераліві сонца і дажджоў*
*На сцэне Летняга амфітэатра.*

*Чароўны Віцебск, час*
*ужо наспеў.*
*Дык сустракай сяброў —*
*не засумуеш!*
*З самога неба паліецца спеў,*
*Як харастро напоўніцу адчуеш!*

*І вось у гэты жыццядайны час,*
*Калі прыродзе лета*
*так да твару,*
*Дажджлівы ліпень*
*прывітае нас*
*Валошкаю*
*«Славянскага базару»!*

Яна ЯВІЧ




Фота БелТА.

Дабрыдзень, шаноўны... не, шыкоўны горад! Шаноўным быў заўжды, а вось шыкоўнасці старажытнаму Віцебску дадаў, няцяжка здагадацца, «Славянскі базар». Дакладней, яго арганізатары ды апекуны — за два з паловай дзесяцігоддзі. Менавіта так: фестываль ладзіцца ў дваццаць пяты раз. Чвэрць стагоддзя для свята ў зменлівы ды складаны час? Па шчырасці, неверагодна. А мы — справіліся. Найперш таму, што ў падмурак ідэалогіі фэсту яго фундатары заклалі немудрагелісты, але прынцыповы пастулат: мір ды згода, браты-славяне! І — будзьма! Разам...

Вось такі ён, наш менталітэт. А ягоныя асаблівасці вынікаюць, відаць, з таго, што шмат бяды перажыла-пабачыла пакутніца Беларусь (колькі, здаецца, не перажыць, калі пабачыць). І шмат страціла. Надзвычай. А мы... мы памятаем.

Таму — мір, мір і яшчэ раз мір! З хлебам-соллю. З фэстамі-святамі, а на пачэсным куце — «Славянскі базар». З яго размахам, імпэтам. Ды ўжо й з паважанай «сівізною»!

Чым сустракаеш, юбіляр?

І гэтым разам — суквецце выбітных артыстаў (ужо загучалі лепшыя галасы), чаканне новых імёнаў (выдатная школа майстэрства). За час фэсту — больш як 130 праектаў. Усцешыць Віцебск чаканых госцейкаў! Дый не толькі на сцэне. Фэст вулічнага мастацтва з музыкамі і перформерамі, «Горад майстроў» з лепшымі беларускімі сувенірамі, начны маскарад з ліхтарыкамі ручной работы...

Арганізатары «Славянскага базару» здзіўляць умеюць! Як вам такое? Упершыню на тэнісным корце побач з амфітэатрам — дыскатэка «*Vitebsk Dance Night*» з удзелам лепшых сусветных дзі-джэяў...

Усё як след: імёны лепшых выканаўцаў, унёсак якіх у развіццё «Славянскага базару» бясспрэчны, па-ранейшаму ўпрыгожваюць «Алею зорак». Але ж цяпер, адмыслова да юбілею, «Алея» сталася «Плошчай».

А вось і яшчэ дзіва. Юбіляр атрымае ў падарунак уласную Кнігу рэкордаў, дзе будуць зафіксаваныя ўнікальныя моманты культурных падзей. І першым запісам — марафон вершаў, прысвечаны Віцебску. Удзел бяруць паэты, артысты, вядомыя гараджане.

Поспех «Славянскага базару» — плён намаганняў прафесійных каманд. За 25 год фэст займеў шмат надзейных партнёраў.

Далучайцеся, браты-славяне! Вас прымае Беларусь — разважлівая, мудрая, хлебасольная.

Інеса ПЕТРУСЕВІЧ

Працяг тэмы на ст. 3

## Пункцірам

✔ Фестываль у Александрыі можа стаць укладам нашай краіны ва ўмацаванне дружбы паміж народамі, адзначыў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, выступаючы на свяце «Александрыя збірае сяброў». Кіраўнік дзяржавы падкрэсліў, што ў цудоўным, чыстым куточку Магілёўшчыны магутны Днепр аб'яднаў майстроў і аматараў народнага мастацтва з Беларусі, Расіі і Украіны, а сама Александрыя стала месцам сяброўскіх сустрэч і пляцоўкай для народнай дыпламатыі.

✔ За шматгадовую плённую працу, высокі прафесіяналізм, асабісты ўклад у развіццё і папулярызацыю нацыянальнай культуры ордэнам Францыска Скарыны ўзнагароджана Алена Спірыдовіч, спецыяльны карэспандэнт аддзела рэдактараў галоўнай дырэкцыі падрыхтоўкі тэлепраграм генеральнага прадзюсарскага цэнтра Белдзяржтэлерадыёкампаніі. Ордэнам Францыска Скарыны таксама ўганараваны рэжысёр, сцэнарыст і прадзюсар Сяргей Пятроў — за значны асабісты ўклад ва ўмацаванне і развіццё беларуска-расійскіх культурных сувязей — ды рэжысёр-пастаноўшчык, вядучая канцэртных і фестывальных праграм Заслужанага акадэмічнага ансамбля песні і танца Узброеных Сіл Украіны Аксана Антанюк — за значны асабісты ўклад ва ўмацаванне і развіццё беларуска-ўкраінскіх культурных сувязей. Адпаведныя ўказы падпісаў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь.

✔ Мабільная экспазіцыя «Вызваленне Беларусі. Верасень 1943 г. — ліпень 1944 г.», якую падрыхтаваў Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, з верасня накіруецца па гарадах Беларусі. Вызначаецца маршрут выстаўкі, галоўная задача якой — зрабіць музей больш даступным для наведвальнікаў з аддаленых куткоў Беларусі.

✔ Прысвоіць Нацыянальнаму аэрапорту Беларусі імя Францыска Скарыны, а самалётам — імёны выбітных дзеячаў мастацтва прапанаваў генеральны дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь Уладзімір Пракапцоў у эфіры праграмы «Буйным планам» на тэлеканале «Беларусь 1». Такі крок стаў бы дадатковай рэкламай нацыянальнай культуры, улічваючы, што 2016 год абвешчаны Годам культуры, а ў 2017-м Беларусь ды іншыя краіны адзначаць 500-годдзе выдання Францыскам Скарынам Псалтыра.

✔ Песні Булата Акуджавы, творы еўрапейскіх класічных паэтаў у суправаджэнні аргана прагучаць у Гродзенскай кірсе падчас другога Міжнароднага фестывалю арганнай і камернай музыкі. Упершыню фестываль ладзіўся летась у будынку адрэстаўраванай Гродзенскай кірхі. Тады гледачам прапанавалі незвычайны сінтэз арганнай музыкі і танца, цяпер жа вырашылі спалучыць гукі аргана і паэзію.

✔ У Рэспубліканскай мастацкай галерэі Беларускага саюза мастакоў (Палац мастацтва) адкрылася выстаўка секцыі афармляльніцкага мастацтва Беларускага саюза мастакоў «Форма, прастора, сэнсы». Дэманструюцца фрагменты афармлення выставачных экспазіцый Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, музея абароны Брэсцкай крэпасці, музея прыроды Нацыянальнага парку «Белавежская пушча» ды інш.

✔ Часовыя турысцка-інфармацыйныя цэнтры працуюць на «Славянскім базару ў Віцебску». Тут можна атрымаць інфармацыю пра тое, як з карысцю правесці вольны час: азнаёміцца з выдатнымі мясцінамі Віцебшчыны, узяць удзел у культурных мерапрыемствах фэсту і экскурсійных праграмах.

# Каб панавала згода



Фота Яўгена Пясецкага.

Адзін са стэндаў прысвечаны беларусу, касманаўту Пятру Клімуку.

Як адчуваюць сябе народы, якія жывуць у Расійскай Федэрацыі? Каму з іх прадстаўнікоў удалося дасягнуць найбольшага поспеху?.. Адказы на гэтыя ды іншыя пытанні вы адшукаеце на выстаўцы «Расія шматнацыянальная», якая адкрылася ў Нацыянальным гістарычным музеі Беларусі і будзе працаваць да 24 ліпеня.

Ніводная дзяржава не можа квітнець пры наяўнасці праблем міжнацыянальнага ці міжканфесійнага характару, перакананая саветнік Пасольства Расійскай Федэрацыі ў Рэспубліцы Беларусь Маргарыта Навадворская, якая падзялілася з карэспандэнтам меркаваннямі падчас урачыстага адкрыцця выстаўкі. Тут можна пабачыць 37 гісторый людзей розных нацый з усіх куткоў Расіі.

— Гэтая выстаўка ўпершыню праходзіць за межамі Расіі. І праходзіць менавіта ў Беларусі, — распавяла Маргарыта Навадворская. — У краіне, дзе ў сферы міжнацыянальных адносін робіцца вельмі шмат. Пэўна, такую ж выстаўку можна было б арганізаваць тут і на падставе беларускага матэрыялу. Весці цікавую размову пра людзей іншых нацыянальнасцей, якія сваёй працай услаўляюць Беларусь і робяць шмат для таго, каб яна квітнела.

У якасці пераканаўчага прыкладу суразмоўца ўзгадала фестываль нацыянальных культур, які традыцыйна праходзіць у Гродне.

— Сёлета мне пашчасціла прысутнічаць на фэсце, — распавяла прадстаўніца пасольства. — Ужо па ўзроўні арганізацыі можна меркаваць пра тое, што ў пытаннях міжнацыянальных адносін Беларусь дасягнула плённых вынікаў. Няцяжка было заўважыць, як упэўнена тут пачуваюцца людзі самых розных нацыянальнасцей.

Будзем спадзявацца, што міжэтнічны мір па-ранейшаму застанецца той каштоўнасцю, на якой трымаецца свет.

**Ніна ШЧАРБАЧЭВІЧ**

# «Дзе льецца Нёман срэбраводны...»

Кажуць, каб адчуць душу паэта, трэба пабываць на яго радзіме. І сапраўды, толькі на малой радзіме Якуба Коласа — на Стаўбцоўшчыне, на беразе бацькі-Нёмана, можна найбольш поўна адчуць усю чароўнасць «Новай зямлі», пахадзіць па тых самых месцах, дзе «крынічкі вузенькае ложа», і дзе «лес кашлаты меў зелянюсенькія шаты», і дзе луг «праменнем сонейка заліты». Але родны кут Песняра вядомы і яшчэ адной знакавай падзеяй. Менавіта тут, каля вёскі Мікалаеўшчына, ва ўрочышчы Пристанька, 110 гадоў таму прайшоў першы нелегальны настаўніцкі з'езд.

Нядаўна тут адбылося літаратурна-музычнае свята «Дзе льецца Нёман срэбраводны», якое аб'яднала беларускіх пісьменнікаў — Міхася Пазнякова, Віктара Шніпа, Міколу Маляўку, Алеся Камароўскага, Аліну Легастаеву, Дзмітрыя Дземідовіча, настаўнікаў Стаўбцоўшчыны, аматараў творчасці Якуба Коласа. Гучалі пранікнёныя словы паэтаў — землякоў Песняра, якія натхняюцца запалам маладых настаўнікаў, вершы і песні на словы класіка ў выкананні народных калектываў.

9 ліпеня 1906 года — дата, якую запомніў на ўсё жыццё не толькі Якуб Колас, але і многія яго сябры-настаўнікі. Гэта падзея знайшла сваё адлюстраванне ў трылогіі «На ростанях»: «У гутарках, у спрэчках прыйшлі на Прыстаньку... Усе сышліся на высокім і маляўнічым беразе Нёмана, дзе можна было прысесці ці проста пакачацца на зялёнай траўцы...».

Летам 1906-га ў Мікалаеўшчыну на дзень нараджэння настаўніка Антона Камароўскага прыехалі яго былыя аднакурснікі і сябры. Гэта была нагода для правядзення з'езда, удзельнікі якога склалі некалькі важных дакументаў. Сярод іх — праект дзейнасці «Всероссийского союза учителей», у якім вызначылі асноўныя задачы саюза, у першую чаргу — барацьбу за рэарганізацыю народнай асветы. Але ў ноч з 9 на 10 ліпеня ўдзельнікі з'езда былі выкрыты паліцыяй, а дакументы — канфіскаваны. Многія трапілі ў турму, у тым ліку і Якуб Колас.

Тры гады ў астрозе — цяжкі час у жыцці пісьменніка, але ён і тут здзяйсняе свае творчыя задумы. Менавіта ў Мінскім астрожным замку былі напісаны першыя раздзелы паэмы «Новая зямля», з'явілася ідэя стварыць паэму «Сымон-музыка».

Сёння можна па-рознаму ставіцца да нелегальнага настаўніцкага з'езда. Але несумненна адно: гэтая падзея — часцінка нашай гісторыі. У 1993 годзе на беразе Нёмана, на Прыстаньцы, устанавілі мемарыяльны знак. А супрацоўнікі філіяла Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа «Мікалаеўшчына» прапануюць наведвальнікам пешыя экскурсіі, якія дазваляюць прайсці сцежкамі маладых настаўнікаў.

**Марыя КАЗАКЕВІЧ**

# Прыклад служэння Айчыне



Саюз пісьменнікаў Беларусі і Віцебскае абласное аддзяленне СПБ глыбока смуткуюць з нагоды раптоўнай смерці ганаровага члена СПБ Барыса Паўлавіча Беляжэнкі.

Паэт, пісьменнік, гумарыст, журналіст і актыўны грамадскі дзеяч Барыс Беляжэнка нарадзіўся 5 чэрвеня 1937 года ў мястэчку Бачэйкава Бешанковіцкага раёна.

Барыс Беляжэнка скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. На творчай працы з лістапада 1986 года. З 2000-га — член савета Віцебскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў. Аўтар 12 кніг прозы, паэзіі, афарызмаў, гумару, казак. Апошнія пяць гадоў працаваў над гістарычнай аповесцю пра вялікага асветніка XVI стагоддзя, нашага земляка Васіля Цяпінскага. Часопісны варыянт гэтага твора пад назвай «Таямніцы Цяпінскага ўзгорка» ў 2014 годзе быў апублікаваны ў часопісе «Нёман». На многія вершы Барыса Беляжэнкі напісаныя песні.

Асноўныя тэмы творчасці Барыса Беляжэнкі — любоў да Радзімы, захапленне прыродай, цудоўнымі, працавітымі людзьмі роднай Беларусі. Яго літаратурная дзейнасць адзначалася на абласным і рэспубліканскім узроўнях. Барыс Паўлавіч — неаднаразовы ўдзельнік і дыпламант рэспубліканскага конкурсу «Лепшая кніга года», лаўрэат абласной літаратурнай прэміі імя У. Караткевіча (2008), летась стаў пераможцам абласнога літаратурнага конкурсу імя Петруся Броўкі. Уганараваны многімі ўзнагародамі.

Для нас, пісьменнікаў Беларусі, літаратараў Віцебшчыны, усіх яго паплечнікаў і таварышаў, жыццёвы шлях Барыса Беляжэнкі застанецца прыкладам бескарыслівага служэння літаратуры, сваёй Айчыне.

**Калегі па літаратурным цэху**

**Мінскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:**

**21 ліпеня** — *на творчую сустрэчу навучэнцаў Міншчыны ў школе «Со-Творчество» (секцыя «Проза») па адрасе: г. Мінск, пл. Свабоды, 13, актавая зала. Пачатак у 11.00.*

**Віцебскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:**

**23 ліпеня** — *на творчую сустрэчу «Кнігу адрасуем маладым» з паэтэсай Кацярынай Сосна і членамі народнага літаратурнага аб'яднання «Світанак» у Більдзюжскую сярэднюю школу Шаркаўшчынскага раёна. Пачатак а 14-й гадзіне.*

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ глыбока смуткуюць з прычыны смерці празаіка, члена Саюза пісьменнікаў Беларусі Валерыя Рыгоравіча ІВАНОВА і выказваюць шчырыя спачуванні яго родным і блізкім.

Працяг. Пачатак на стар. 1.

# Пуцявінамі фестывальнымі...

**За некалькі дзён фестывалю «Славянскі базар ў Віцебску» жыхары і госці горада паспелі наведаць шмат мерапрыемстваў, сярод якіх сольныя канцэрты расійскіх зорак, прэзентацыя экспазіцый работ знакамітых мастакоў, тэатральныя сустрэчы і лялечныя «хэпенінгі». Акрамя гэтага усе жадаючыя маглі назіраць парад-шэсце ўдзельнікаў фестывалю і ўздым яго афіцыйнага сцяга. Але не варта сумаваць тым, хто далучаецца да падзей толькі цяпер, у выхадныя: галоўная інтрыга яшчэ наперадзе.**

## КОНКУРС ВЫКАНАЎЦАЎ ЭСТРАДНАЙ ПЕСНІ

Тры дні — з 15 па 17 ліпеня — будзе доўжыцца XXV конкурс выканаўцаў эстраднай песні. У паўфінале выступяць прадстаўнікі дваццаці краін. Нароўні са спевакамі краін-суседак Беларусі з Еўропы і Азіі ў конкурсе ўдзельнічаюць і тыя, хто жыве амаль за паўсвету ад нас — Хорхе Рамано з Мексікі і Саманта Эчэварыя з Кубы. Варта адзначыць, што прадстаўнікі Кубы бяруць удзел у фестывалі ўпершыню.

Беларусь на конкурсе прадстаўляе Аляксей Грос. Да перамогі ў адборачным туры ён атрымаў спецыяльны прыз «Надзея» на Рэспубліканскім конкурсе маладых эстрадных выканаўцаў «БЕЛазаўскі акорд» у 2009 годзе, быў фіналістам Нацыянальных адборачных тураў «Еўрабачанне» 2014—2016 гадоў і фіналістам Міжнароднага конкурсу папулярнай музыкі «Новая хваля» 2012 года. Для сваіх выступленняў ён падабраў песні Уладзіміра Мулявіна «Ой, дождык ідзе», Пятра Ялфімава «Я хачу» і Бон Джові «It's my life».

Спевакі, якія прайшлі адбор на конкурс, з'яўляюцца дыпламантамі і лаўрэатамі нацыянальных конкурсаў, таму канкурэнцыя сярод удзельнікаў вельмі моцная. Пераможца конкурсу атрымае Гран-пры і «Залатую Ліру». Цырымонія ўзнагароджання пераможцаў адбудзецца падчас закрыцця фестывалю.

У гэты ж час, 16 — 17 ліпеня, таксама за Гран-пры і «Залатую Ліру» будуць змагацца зусім юныя спевакі на XIV Міжнародным дзіцячым музычным конкурсе. Маленькія прадстаўнікі дваццаці адной краіны падзеляцца з гледачамі задорам, вяселлем і сонечным настроем.

## МАЛАДЗЁЖНАЕ

Дзе яшчэ паглядзець Арт-парад субкультур? Велатрыялісты, ролеры, брэйк-дансісты, мастакі бодзі-арт, бітбоксеры, прадстаўнікі танцавальных школ, рыцарскіх клубаў, аркестраў, музычных калектываў, тэатраў і многія іншыя з усіх рэгіёнаў краіны, а таксама з блізкага і далёкага замежжа, пройдуць да плошчы Перамогі, каб ускласці кветкі і вянкі да мемарыяльнага комплексу ў гонар савецкіх воінаў-вызваліцеляў, партызанаў і падпольшчыкаў Віцебшчыны. Пасля гэтага адбудзецца ўрачыстае адкрыццё Дня моладзі і пачнецца фестываль маладзёжных субкультур. Культурную праграму да Дня моладзі, якая будзе прадстаўлена 16 ліпеня, падрыхтаваў Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі.

## МАСТАЦКІЯ ВЫСТАЎКІ

На працягу фестывалю музеі Віцебска запрашаюць гасцей на выстаўкі твораў мастакоў Марка Шагала, Юдэля Пэна, Івана Хруцкага, работ рамеснікаў Тацяны, Юрыя і Валерыі Рудэнкаў «Анёлы над Віцебскам», экспазіцыі фатографаў Ірэны Гудзіеўскай, Алега Лукашэвіча і Аляксандра Аляксеева, краязнаўчыя выстаўкі «З любоўю да Беларусі» і «Сярэднявечнае ўпрыгожванне. Таямнічы пояс эпохі Вітаўта Вялікага». І тут праяўляецца міжнародны характар фестывалю: у Віцебскай абласной філармоніі працуе выставачная праграма «Пейзажы і партрэты Беларусі і Кітая», а Мастацкі музей прадстаўляе выстаўку «Дотык Славакіі» Зузаны Граўс Рудаўскі. Нават Нацыянальны тэатр імя Якуба Коласа стаў выставачнай пляцоўкай — там можна ўбачыць праграму «Агароднінны базар» ізраільскага фатографа Аліка Замосціна.

**Юлія РУДЗЕНКА**



*Фота Віктара Нікалаева.*

# Тэатральныя сустрэчы

**Віцебску пра Шагала распавядаюць масквічы. Тэатр лялек «Адлюстраванне» прадставіў пастаноўку Барыса Чарнышова «Дзіўны цырк Марка Шагала», створаную паводле серыі работ мастака. Гэта і задало тон усёй пастаноўцы — каб тэатральны твор быў сугучны мастацкім. Паказ адбыўся ў межах праграмы «Лялечны квартал». У Віцебску працуе тэатр «Лялька», сёлета яго пастаноўка «Горад клоўна Піка» падтрымала тэму расійскіх гасцей. Але яшчэ ў праграме іх спектакль «Умка».**

На што варта паспець звярнуць увагу, дык на пастаноўку «Вішнёвы сад» паводле Чэхава лялечнага тэатра «Агніва» з Расіі. Пастаноўку ажыццявіў беларускі рэжысёр, лаўрэат Нацыянальнай тэатральнай прэміі Алег Жугжда. Яшчэ наперадзе сустрэча з Палтаўскім акадэмічным абласным тэатрам лялек і спектаклем «Крылы Дзюймовачкі».

З Украіны прыедзе і драматычны спектакль «Цені забытых продкаў» паводле М. Кацюбінскага ў пастаноўцы Кіеўскага нацыянальнага ўніверсітэта тэатра, кіно і тэлебачання.

Расійскія драматычныя тэатры радуюць сустрэчамі з папулярнымі і пазнавальнымі артыстамі. Напрыклад, у спектаклі «Спакуса Рыты, ці Апошняе каханне Дзеда Мароза» Міжнароднага тэатральнага цэнтра «Шанц» можна было ўбачыць Марыю Галубкіну. Лія Ахеджакава іграла ў спектаклі «Мой унук Веніямін» паводле Людмілы Уліцкай. Фёдар Дабранраваў заняты ў пастаноўцы «Выхаванне Рыты» Тэатра Кшыштафа Занусі.

Наперадзе яшчэ «Царскі падарунак» Міжнароднага тэатральнага цэнтра «Шанц» з Расіі, маскоўская версія спектакля «№13» паводле Р. Куні і «Партрэт Дарыяна Грэя».

Але па-за канкурэнцыяй сёлета яшчэ адна зорка: Уладзімір Мулявін у спектаклі «Пясняр» Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Горкага. Віцебск не раз бачыў спевака на эстраднай сцэне. Тэатр распавядае яго драматычную гісторыю.

## КІНАПРАГРАМА

Што можа прадставіць Беларусь у кінапраграме? З нядаўняга — «Белыя росы. Вяртанне», фільм, які зняла рэжысёр Аляксандра Бутар. Але калі вы ўжо не паспелі паглядзець беларускае кіно, то кампенсаваць можна іншымі фільмамі: з Расіі, Чэхіі, Сербіі, Латвіі, Балгарыі. Але каб знайсці ў Віцебску час на кіно ў гэтыя дні, трэба моцна пастарацца.

**Марыя АСІПЕНКА**

## Дайджэст

• На сцэну Летняга амфітэатра ў Віцебску 18 ліпеня 1992 года ў 22.00 выйшлі тэлевядучыя з трох краін — Беларусі, Расіі і Украіны. Яны абвясцілі глядзельнай зале і мільёнам тэлегледачоў пра ўрачыстае адкрыццё Міжнароднага музычнага фестывалю «Славянскі базар». У першым фестывалі ўзялі ўдзел артысты з Беларусі, Расіі, Украіны, ЗША, Канады, Аўстраліі, Польшчы, Грузіі. Самыя вялікія дэлегацыі на фестываль даслалі Беларусь, Расія і Украіна. У іх складзе было па 300 чалавек. Міжнародны музычны фестываль сабраў у Віцебску больш як 1000 гасцей.

• У 1993 годзе «Славянскі базар» стаў членам Міжнароднай федэрацыі арганізатараў фестываляў *(FIDOF)*.

• З 1995 года фестываль праводзіцца пад асабістым патранатам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі. З гэтага ж года называецца Міжнародным фестывалем мастацтваў.

• У 1996 годзе фестываль упершыню трансляраваўся па сістэме спадарожнікавага тэлебачання, што зрабіла прагляд свята мастацтваў даступным жыхарам усёй планеты.

• У 1998 годзе фестываль у Віцебску стаў міждзяржаўным культуралагічным праектам Саюза Расіі і Беларусі.

• У 2000 годзе на «Славянскі базар у Віцебску» з'ехаліся прадстаўнікі ўсіх славянскіх народаў, якія жывуць на Зямлі, і гэта сапраўдны рэкорд фестывалю, у якім было задзейнічана 5300 удзельнікаў і гасцей з 23 краін свету.

• 2001 год. Упершыню за гісторыю фестывалю Віцебск урачыста сустракаў прэзідэнтаў трох краін — Беларусі, Расіі і Украіны.

• У 2009 годзе адбылося адкрыццё Алеі лаўрэатаў, удастоеных Спецыяльнай узнагароды Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «Праз мастацтва — да міру і ўзаемаразумення».

• У 2011 годзе прайшоў юбілейны XX Міжнародны фестываль мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску». Падлічана, што за 20 гадоў у Віцебску пабывала больш як 55 тысяч удзельнікаў з 68 краін свету.

• У 2013 годзе фестываль прайшоў пад знакам святкавання 25-годдзя Летняга амфітэатра. 15 ліпеня, у дзень закрыцця XXII Міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску», над Летнім амфітэатрам ззяла некалькі вясёлак: адна над сцэнай і дзве ў небе. Упершыню ўзнагароджанне пераможцаў Міжнароднага конкурсу «Віцебск» адбылося на галоўнай фестывальнай сцэне.

• У 2014 годзе, згодна са змененым фарматам правядзення конкурсу маладых выканаўцаў, спаборніцтва складалася з паўфінала і фінала. Але адзін з тураў нязменна праходзіць у суправаджэнні Нацыянальнага канцэртнага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам народнага артыста Беларусі, прафесара Міхаіла Фінберга.

• У ліпені 2015 года горад на Дзвіне стаў месцам правядзення Міжнароднай канферэнцыі Сусветнай асацыяцыі фестываляў, закліканай спрыяць развіццю міжнароднага культурнага супрацоўніцтва, захаванню разнастайнасці і самабытнасці народаў у імя міру і згоды.

• За 25 гадоў існавання фестывалю лаўрэатамі конкурсу маладых выканаўцаў на «Славянскім базары ў Віцебску» неаднаразова станавіліся беларускія спевакі: Максім Сапацькоў (2003 г.), Пётр Ялфімаў (2004 г.), Паліна Смолава (2005 г.), Валерыя Грыбусава (2015 г.).

# Па шляху «з варагаў у грэкі»,

## або Ад вытокаў нашага дзяржбудаўніцтва

**У навуковым свеце вызначаюць тры вялікія эпохі, культуры, якія сталі падмуркам усіх еўрапейскіх культур, — старажытнагрэчаскую, Рымскай імперыі і Эпоху вікінгаў. Апошняя цяпер у цэнтры значнай увагі. Эпоха вікінгаў датуецца IX — XII стагоддзямі. За гэты час нарманскія мараходы і вандроўнікі дайшлі да Англіі, Францыі, Італіі, удзельнічалі ў станаўленні магутнай дзяржавы ва Усходняй Еўропе — Кіеўскай Русі, адкрылі Амерыку задоўга да Калумба, дасягнулі поспехаў у металаапрацоўцы, караблебудаванні, вайсковай справе. Эпоху вікінгаў актыўна вывучаюць і беларускія даследчыкі, нарманскай тэме прысвячаюць творы пісьменнікі. Прэзентацыя дзіцячай казкі пад назвай «Цудоўныя прыгоды ліцвінскай прынцэсы ў Дацкім каралеўстве» Наталіі Бадзілоўскай не так даўно прайшла ў межах выстаўкі «Вікінгі і балты: Паўночная Сага», падрыхтаванай супрацоўнікамі Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь. Спецыяліст, які вывучае дадзеную тэму, навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі, археолаг Сяргей Дзярновіч адзначае, што Эпоха вікінгаў пакінула адметны след і ў развіцці беларускіх гісторыі і культуры.**

— Эпоха вікінгаў доўжылася чатыры стагоддзі, — распавядае Сяргей Дзярновіч. — Тады беларусаў-ліцвінаў як такіх яшчэ не было. На нашай тэрыторыі на працягу некалькіх тысячагоддзяў жылі балты. Адносна нядаўна па гістарычных мерках, у VII — VIII стагоддзях, сюды прыйшлі славяне. Археалагічныя сляды з'яўлення нарманаў на тэрыторыі Беларусі вызначаюцца з сярэдзіны IX стагоддзя. Асноўны максімум знойдзеных рэчаў, датычных вікінгаў, прыпадае на канец X — пачатак XI стагоддзя. На XII — пачатак XIII стагоддзя археалагічная нарманская прысутнасць прыкметна змяншаецца. У еўрапейскім кантэксце заканчваецца Эпоха вікінгаў. Першапачаткова дзейнасць нарманаў, так вікінгаў звалі ў еўрапейскіх краінах, у нас была звязана з гандлёвымі інтарэсамі, прыбыццём арабскага срэбра з краін, якія цяпер знаходзяцца ў Сярэдняй Азіі. Вікінгі выкарыстоўвалі нашы рэкі, рачную сістэму. Менавіта гэта і абумовіла іх цікавасць да нашай тэрыторыі. Затым яны пачалі кантраляваць далейшыя маршруты і ўключыліся ў працэс дзяржаўнага будавання на нашай зямлі. З сярэдзіны X стагоддзя нарманы актыўна ўдзельнічаюць у стварэнні Полацкай дзяржавы, у эканамічным і палітычным жыцці. Зараджэнне полацкай дынастыі можна звязваць з выхадцамі са Скандынавіі. Да пачатку XII стагоддзя нарманы інтэграваліся, інкарпарыраваліся ў мясцовае грамадства. Асабліва шмат артэфактаў, звязаных з вікінгамі, археолагі знаходзяць у Віцебскай вобласці. У прыватнасці, шмат іх у гарадзішчы Масковічы, якое раней звалася Маскоўцы. Прычым мноства артэфактаў датычыць нашчадкаў нарманаў, некалькіх пакаленняў, якія ўваходзілі ў сацыяльную эліту Полацкага княства. Таксама можна казаць пра іх прысутнасць у княжацкім гарнізоне.


*Спражка пад пас з абоймiцай. Бронза.*

**— Масковічы знаходзяцца ў Полацкім рэгіёне?**

— Яны датычныя да тэрыторыі Полацка-Віцебскага Падзвіння або беларускай плыні Заходняй Дзвіны. Тут вылучаецца рэгіён Браслаўскага Паазер'я. Масковічы, або Маскоўцы, унікальныя тым, што былі абжытыя вікінгамі. Яны звязаны з культурай, веравызнаннямі скандынаваў. Тут знойдзены рунічныя рэчы, косткі з рунічнымі знакамі. Руны мелі некалькі значэнняў для тых, хто іх выкарыстоўваў: перадавалі інфармацыю, неслі магічную сілу.

**— У тагачасным Полацку жыло шмат скандынаваў?**

— Інфармацыя, якую дае археалогія, пакуль не можа вызначыць, наколькі была прадстаўнічая супольнасць нарманаў. На сёння ў Полацку і яго ваколіцах месцаў, дзе знаходзіліся вікінгі, не засталося, і мы маем справу толькі з адзінкавымі рэчамі. Частка іх паходзіць з курганных могільнікаў. Казаць пра Полацк і пра яго нарманскі кампанент увогуле досыць складана пакуль у плане археалогіі. Але ў плане гістарычным, пры выкарыстанні ўскосных дадзеных, навукоўцамі вызначана, што Рагвалод, альбо Ронгвальд, — першы полацкі князь, які ўзгадваецца ў летапісах, — і яго асяроддзе насамрэч звязаныя са скандынаўскім рэгіёнам. Нарманы былі ўключаныя ў працэсы, якія развіваліся тады на тэрыторыі Полацкай зямлі. Працэс дзяржаўнага будаўніцтва звязаны з пэўнымі асобамі. На момант канца IX — пачатку X стагоддзя якраз стварыліся ўмовы, калі мясцовае грамадства магло, што называецца, скарыстаць паслугамі тых, хто прыходзіў з-за мора, са Скандынавіі. І яны былі прадстаўнічымі асобамі дзяржавы, што зараджалася.

**— Яны былі выхадцамі са Швецыі, Даніі альбо Нарвегіі? Некаторыя навукоўцы, у прыватнасці Георгій Ласкавы ў кнізе «Вікінгі», вызначалі, што Рагвалод-Ронгвальд быў з Рурыкаў, якія прыйшлі з Даніі.**

— Большасць беларускіх даследчыкаў лічаць, што Рагвалод быў выхадцам з сярэдняй Швецыі. Насамрэч паводле археалагічных дадзеных досыць складана вызначыць, адкуль прыйшлі вікінгі, якія пасяліліся ў полацкіх землях, адкуль менавіта паходзілі тыя, хто прынёс культуру вікінгаў. Але сукупнасць рэчаў, якая існуе, паказвае, што вікінгі прыбылі з ваколіц возера Меларэн, што непадалёк ад Стакгольма. Асноўны паток нарманаў ішоў на тэрыторыю Усходняй Еўропы, у тым ліку і на землі Беларусі, з сярэдняй Швецыі. Выхадцы з Даніі і Нарвегіі асноўную ўвагу звярталі на Англію ды іншыя краіны Заходняй Еўропы. Нейкія ўскосныя дадзеныя з пісьмовых крыніц у нас маюцца наконт Рурыкаў. Але ў любым выпадку гэта ўжо гіпотэзы. Трэба мець на ўвазе таксама тое, што пэўная колькасць рэчаў, якія існавалі на тэрыторыі Скандынавіі, былі характэрныя для ўсяго рэгіёна Паўночнай Еўропы, часткова — Заходняй Еўропы.


*Сяргей Дзярновіч.*

**— У заходнееўрапейскай гістарыяграфіі ёсць гіпотэза, што некалі існавала Вялікая Швецыя і займала тэрыторыю Усходняй Еўропы, «русамі» ў часы Кіеўскай Русі называлі выхадцаў са Швецыі, а славян — «склавінамі»...**

— Вялікая Швецыя — калянавуковая тэорыя. Яна была папулярная напрыканцы XIX стагоддзя. Якой бы ні з'яўлялася вялікая дзяржава, яна мае традыцыю гістарыяграфічную, палітычную. Прысутнасць скандынаваў ва Усходняй Еўропе — Беларусі, Украіне, Расіі — чытаецца дзесьці больш, дзесьці менш. Усе гістарычныя крыніцы вылучаюць славян асобна, русаў — асобна. У гістарыяграфіі гаворка ідзе не столькі пра варагаў, колькі пра русаў. Сапраўды, праблема русаў сур'ёзная, яе неабходна вывучаць у кантэксце ўсходнееўрапейскім. Навукоўцы мяркуюць, што гэта было асобнае скандынаўскае племя, асобная група насельніцтва, якая жыла на ўзбярэжжы Балтыкі. Калі сфарміравалася дзяржава на тэрыторыі Беларусі, частка палітычнай эліты была прадстаўлена нарманамі. І нарманы, існуе гіпотэза, зваліся русамі. Нарманамі сябе ніхто з мясцовага насельніцтва не называў. Атрымаўшы палітычную эліту, якая была прадстаўлена русамі, пытанне стала не пра тое, якое насельніцтва яны ўяўляюць, а як самі сябе называюць. Таму і ў гістарычных крыніцах адзначаецца: «Дамова заключана з русамі» — і, адпаведна, усё гэта адбывалася ў «зямлі рускай» і гэтак далей.



*Кольца-фібула падкovападобная з аб'ёмістымі галоўкамі.*

**— Якія цікавыя знаходкі зроблены нашымі даследчыкамі?**

— Адзначу раскопкі гісторыка Людмілы Дучыц, якія яна пачала з 1976 года. Калекцыя папаўнялася з цягам часу. Мною былі знойдзены косткі з рунічнымі знакамі, іншымі сімваламі. Сабраная намі скандынаўская калекцыя захоўваецца ў Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь, часткова ў Музеі старажытнабеларускага мастацтва Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, некалькі асобнікаў — у Браслаўскім музеі традыцыйнай культуры.

**— Як праходзіў шлях «з варагаў у грэкі» па нашых землях?**

— Нам уяўляецца нейкая жорсткая схема. Вядомыя на сёння скандынаўскія артэфакты адлюстроўваюць, што прамога шляху ў прынцыпе не існавала. На тэрыторыі Беларусі ўся дастаткова шчыльная рачная сетка выкарыстоўвалася дзеля перасоўвання з поўначы на поўдзень. Асноўны маршрут пралягаў ад поўначы Беларусі, ад ракі Ловаць, потым ішоў праз Заходнюю Дзвіну і спускаўся ніжэй ад вярхоўя Дняпра. Пры гэтым шырока выкарыстоўваліся Бярэзіна-Дняпроўская сістэма і сістэма невялікіх рэчак захаду Беларусі, якая звязвае Полацка-Віцебскае Падзвінне, Браслаўскае Паазер'е і выходзіць на возера Нарач, яго навакольле, на водападзел Нёмана, Дняпра, Заходняй Дзвіны. У гэтых мясцінах маглі быць стаянкі нарманаў, якія перасоўваліся па нашых землях з гандлёвымі інтарэсамі. Гэта былі паселішчы, факторыі, куды нарманы маглі прыходзіць і ў абмен на арабскае срэбра атрымліваць футра, потым сыходзіць. Сведчанні знаходжання тых, хто наймаўся на службу да князёў і потым інтэграваўся ў мясцовае грамадства, сустракаюцца пры раскопках скандынаўскага пахавальнага абраду. Мы іх знаходзім у ваколіцах Полацка, Мінска, Лукомля, Заслаўя. Частка нарманаў асела на гэтых землях і была інтэграваная. Іх нашчадкі імкнуліся прытрымлівацца нарманскай традыцыі.

**— Што дала культура нарманаў тым, хто жыў на нашых землях у тыя часы?**

— Уплыў на развіццё нашай матэрыяльнай культуры быў дастаткова моцны. Вікінгі зрабілі свой унёсак у развіццё збройнай справы, выкарыстанне пэўных тыпаў зброі лепшых еўрапейскіх узораў, у фарміраванне прадметаў побытавага комплексу, такіх рэчаў, як нажы, ужыванне тэхналогіі вырабу якіх адсылае нас у Скандынавію. Нарманскі ўплыў на развіццё металаапрацоўчай галіны быў таксама значны. Для вырабу мясцовых тыпаў упрыгажэнняў выкарыстоўваліся металы, тэхналогіі, якія прыйшлі са Скандынавіі. Гэта былі веды па стварэнні шматкампанентных сплаваў бронзы, выкарыстанне цынку пры вырабе ўпрыгажэнняў. Можна казаць пра варыянты выкарыстання скуранога абутку. У жаночай вопратцы былі некаторыя запазычанні. Мужчынская мода была больш інтэрнацыянальнай. Выкарыстоўвалі плашчы, фібулы, кальцападобныя зашпількі з доўгай іголкай. Знойдзены паселішчы, дзе сустракаюцца нарманскія варыянты цуглі, шпоры.

Асобная і значная тэма — Эпоха вікінгаў, пытанні фарміравання Полацкай дзяржавы і наогул пытанні дзяржаўнага ўтварэння на тэрыторыі Беларусі. Усё, што звязана з Рагвалодам, са станаўленнем полацкай дынастыі Усяслава і Рагнеды, з дзейнасцю Брачыслава, які пашырыў Полацкае княства, патрабуе працы не на адно дзесяцігоддзе. Ва ўсіх гэтых працэсах скандынавы бралі непасрэдны ўдзел.

**— Скарбы вікінгаў. Іх вельмі шмат адшукваюць на нашай тэрыторыі...**

— Скарбы знаходзяцца. Але ў скарбаў ёсць асобны вялікі вораг — чорныя капальнікі. Частка іх знаходак трапляе ў поле зроку археолагаў і гісторыкаў. Частка падзяляецца, прадаецца паасобку ў прыватныя калекцыі. Для навукі яны, па вялікім рахунку, згубленыя. Трэба ставіцца да чорных капальнікаў так, як яны таго заслугоўваюць. Як да рабаўнікоў, якія крадуць у нас і ў дзяржавы. Апошнім часам шмат размоў вядзецца пра стварэнне турыстычнага маршруту «З варагаў у грэкі». Маршрут трэба, на думку навукоўцаў, наладжваць на міжнародным, міжрэгіянальным узроўні. Прыкладам можа паслужыць тое, што зроблена ў Польшчы і краінах Балтыі: Бурштынавы шлях, сетка каналаў... Можна ці не па ўсёй Еўропе праплысці. Такім чынам, тэма вікінгаў у нашай гісторыі актуальная і сёння.

**Наталля АЛЕСЯЕЎСКАЯ**

# Вакол Гродзеншчыны — за тысячагоддзе?

**Якуб Колас у трылогіі «На ростанях» стварыў вобраз мястэчка Панямонне, «змалёўваючы» яго з вёскі Новы Свержань, дзе нарадзіўся беларускі літаратуразнаўца, прафесар кафедры турызму і культурнай спадчыны Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Я. Купалы Аляксей Пяткевіч. У Гродзенскай абласной навуковай бібліятэцы імя Я. Ф. Карскага адбылася прэзентацыя яго новай кнігі «Слова і кніга Прынёмання».**

Аўтар выдання — даўні сябар (з 1957 года) гэтай кніжніцы. Дарэчы, малой радзіме творца прысвяціў эсэ «Бацька мой Нёман» — своеасаблівую споведзь пра родны кут, сям'ю.

Пасля заканчэння Белдзяржуніверсітэта і аспірантуры Аляксей Міхайлавіч адмаўляецца ад прэстыжнага размеркавання ў Інстытут літаратуры Акадэміі навук і едзе выкладчыкам у Гродзенскі педінстытут. Узначальваў кафедру беларускай літаратуры, быў ініцыятарам стварэння першай у Беларусі кафедры беларускай культуры, дзе спачатку працаваў дацэнтам, а потым і загадваў ёю. З 2006-га — на кафедры беларускай культуры і рэгіянальнага турызму (з 2013 года — кафедра турызму і культурнай спадчыны).

Першая літаратуразнаўчая публікацыя Аляксея Пяткевіча датаваная 1958 годам, калі ў часопісе «Полымя» ўбачыў свет артыкул «Майстэрства партрэтнай характарыстыкі». У 1971-м крытыка і літаратуразнаўцу прынялі ў Саюз пісьменнікаў СССР па рэкамендацыях Васіля Быкава і Дануты Бічэль. У навуковым багажы Аляксея Міхайлавіча — 8 кніг, 5 выданняў у суаўтарстве, больш як паўтысячы артыкулаў. Менавіта ў Гродне ён напісаў першую кнігу пра творчыя здабыткі Кузьмы Чорнага, а яшчэ раней абараніў па гэтай тэме кандыдацкую дысертацыю.

Нядзіўна, што зямлі, якая стала другой радзімай, Аляксей Міхайлавіч прысвяціў адмысловы даведнік — «Людзі культуры з Гродзеншчыны», аналагаў якому не мае ніводзін рэгіён: мастакі, пісьменнікі, архітэктары, вучоныя-гуманітарыі.

Акрамя гэтага выдання было яшчэ адно краязнаўчае даследаванне — «Літаратурная Гродзеншчына: Мясціны. Людзі. Кнігі», што выйшла ў 2000 годзе. Кола зацікаўленняў даследчыка вельмі багатае, але асобна варта выдзеліць энцыклапедызм і любоў аўтара да гістарычнага краязнаўства. Значнае месца займаюць выданні «Маршруты кніжнага слова: з гісторыі кнігі, друку на Гродзеншчыне» (2002) і «Старонкі спадчыны: культурнае памежжа Гродзеншчыны: працэсы, з'явы, асобы» (2006). Імя Аляксея Пяткевіча як аўтара пастаянна сустракаецца на старонках шматлікіх энцыклапедый і даведнікаў.

Прафесар плённа супрацоўнічаў з выдавецтвам «Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі», браў удзел у падрыхтоўцы і выданні шматлікіх гістарычных хронік «Памяць». Дарэчы, кнігі навукоўца захоўваюцца і актыўна выкарыстоўваюцца не толькі ў бібліятэках нашай краіны, але і ў кніжніцах Масквы, Санкт-Пецярбурга, Варшавы, Любліна, Кракава.

Аляксей Міхайлавіч — актыўны ўдзельнік навуковых і культурна-асветніцкіх мерапрыемстваў. Шмат гадоў рыхтаваў і вёў штомесячную праграму «Кнігарня» на гродзенскай студыі тэлебачання.

І вось цяпер — «Слова і кніга Прынёмання». Зборнік навуковых артыкулаў пра станаўленне і развіццё рукапіснага пісьменства, друку і літаратуры на тэрыторыі вобласці. Аўтар адлюстраваў гісторыю друку на Гродзеншчыне ў XVII — XVIII стст., міжваенны перыяд, прадставіў звесткі больш як пра 600 літаратараў і журналістаў. Дакладныя і змястоўныя характарыстыкі герояў даследавання прафесара прыцягваюць увагу да знаёмых і новых прозвішчаў беларускай літаратуры і друку, ды не толькі беларускай! Новая кніга змяшчае інфармацыю пра ўсіх пісьменнікаў, творчыя і жыццёвыя пуцявіны якіх знітаваны з Прынёманнем: польскамоўных, рускамоўных і творцаў, што пісалі на ідыш. Новая праца Аляксея Пяткевіча — своеасаблівая панарама культурнага жыцця Гродзеншчыны на працягу апошняга тысячагоддзя.

**Любоў ТУРМАСАВА**

*З нагоды*

# Пра пісьменніцу-змагарку

**Талент Алаізы Пашкевіч, 140-годдзе з дня нараджэння якой мы адзначаем сёлета, непарыўна звязаны з гісторыяй развіцця беларускага грамадства і нацыі, гуманізацыяй і дэмакратызацыяй нашай краіны, узбагачэннем літаратуры філасофскімі творамі.**

Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры мае багатыя фондавыя матэрыялы, якія распавядаюць пра дзейнасць і творчасць Цёткі. На выстаўцы «Апосталка беларускага адраджэння», якая адкрываецца сёння ў Дзяржаўным літаратурным музеі Петруся Броўкі, прадстаўлены прадметы быту, кнігі, фотаздымкі канца XIX — пачатку XX ст. (часу жыцця пісьменніцы), якія сведчаць пра фарміраванне і станаўленне асобы Алаізы Пашкевіч, а таксама мастацкія ды навуковыя матэрыялы, створаныя ў сярэдзіне XX — пачатку XXI ст.

Наведвальнікі змогуць убачыць прыжыццёвыя выданні зборнікаў «Скрыпка беларуская», «Хрэст на свабоду», «Першае чытанне для дзетак беларусаў». А таксама дакументы, што суправаджалі пачатак жыцця творцы, габелен канца XIX ст., які належаў сям'і Пашкевічаў, ды іншыя не менш цікавыя рарытэты.

У айчыннай літаратурнай скарбонцы шмат твораў, прысвечаных Цётцы. Лідзія Арабей, Валянціна Коўтун, Рыгор Барадулін, Данута Бічэль-Загнетава, Алег Лойка ды іншыя спрычыніліся да глыбокага аналізу шматграннай натуры Цёткі і прысвяцілі частку свайго жыцця аналізу дзейнасці гэтай незвычайнай жанчыны. Мастацкія і навуковыя працы новых пакаленняў даследчыкаў дапамагаюць успрымаць факты біяграфіі і памкненні пісьменніцы-змагаркі вачыма сучасніка, прадвызначыць тое агульнанацыянальнае, што яднае народ у розных палітычных і грамадскіх умовах. Гэтую тэму на выстаўцы ілюструюць рукапісы твораў, выданні кніг, навуковыя матэрыялы і даследаванні, прысвечаныя Алаізе Пашкевіч.

Да інтэрпрэтацыі вобразаў, створаных пісьменніцай, і іх візуалізацыі прыклалі намаганні і беларускія мастакі. Графічныя работы Міколы Купавы і Анатоля Волкава, прадстаўленыя ў асобнай частцы экспазіцыі, адмыслова адлюстроўваюць герояў, пейзажы, дзеянні і нават думкі, раскрытыя ў вершах і апавяданнях Цёткі.

* * *

Музей беларускага народнага мастацтва ў Раўбічах, філіял Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь, прапануе наведвальнікам пазнаёміцца з некаторымі відамі народнага мастацтва не толькі на ўласныя вочы, але і... на ўласныя рукі! Кожную суботу тут праходзяць майстар-класы па стварэнні лялек-мотанак (абярэгу), ткацтве паясоў, саломапляценні і роспісе яек.

Дарэчы, экспазіцыя музея багата шэдэўрамі народнага мастацтва з простых матэрыялаў, створанымі не прафесійнымі мастакамі, а звычайнымі людзьмі. Таму супрацоўнікі ўстановы і прапануюць гасцям паспрабаваць свае сілы ў пэўных народных рамёствах.

**Міра ІЎКОВІЧ**

*Радзіннае*

# «Гліняны звон» над Івянцом

**Славутае старажытнае мястэчка ў восьмы раз прымала майстроў ганчарнай справы і аматараў народнай творчасці. Больш як 90 ганчароў з вучнямі ўзялі ўдзел у абласным свяце-конкурсе «Гліняны звон». Сёлета ў Івянец з'ехаліся прадстаўнікі не толькі Міншчыны, але і Брэсцкай, Віцебскай абласцей ды Мінска.**



Юная ўдзельніца майстар-класа.

Свята-конкурс мае на мэце падтрымку народных умельцаў, заахвочванне дзяцей і моладзі народнымі мастацкімі рамёствамі і, зразумела, магчымасць пераемнасці традыцый.

Самую вялікую творчую дэлегацыю прадставіў Салігорскі раён — 17 майстроў з вучнямі. Менавіта таму і Гран-пры свята-конкурсу «Гліняны звон» накіравалася ў Салігорск.

— З самага першага конкурсу, які праходзіў у 1996 годзе ў Любані, бяру ўдзел у гэтым свяце, — зазначыў уладальнік Гран-пры Мікалай Пратасеня, кіраўнік заслужанага аматарскага калектыву Рэспублікі Беларусь студыі дэкаратыўна-прыкладной творчасці «Скарбонка». — Самае галоўнае для педагога — магчымасць творчага спаборніцтва разам з юнымі ганчарамі. Тады хлопчыкі і дзяўчынкі разумеюць: ганчарства — сур'ёзная справа, з якой можна звязаць сваё жыццё.

Дарэчы, праца канкурсантаў ацэньвалася па 10 намінацыях: за хуткасць і якасць выканання ганчарнага посуду, выраб традыцыйнай глінянай цацкі ды інш. Былі і дадатковыя прызы, якія атрымалі шасцігадовы Ігнат Рамановіч са Слуцкага раёна — за творчы дэбют на свяце, Дзяніс Гром з Мінскага раёна ў якасці лепшага настаўніка, сям'я Раманчукоў з Лагойшчыны як лепшы сямейны калектыў.

Назіраць за працай ганчара цікава, але ж сядзець за ганчарным колам — яшчэ цікавей. Шмат юных наведвальнікаў свята маглі зрабіць сваімі рукамі цацку ці выкруціць на ганчарным коле гарлачык. Майстар-клас праводзіў ганчар з Лагойскага раёна Мікалай Стрэльчанка.



Майстар-ганчар Мікалай Стрэльчанка з Лагойскага раёна.

— Заўсёды цікава назіраць за дзецьмі, якія ўпершыню дакранаюцца да гліны, для іх гэта вельмі сур'ёзна і... патаемна, — распавёў Мікалай Стрэльчанка. — Спадзяюся, што на наступны «Гліняны звон» прывязу маладога ганчара — сваю вучаніцу Анастасію Красуцкую.

**Вольга ХАЧКОВА,**
**загадчык аддзела традыцыйнага мастацтва Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці**

# Мастацва ці рэфлексія: *tertium non datur*?




**Выдатна:** такую адзнаку можна паставіць не кожнаму літаратурнамастацкаму твору, яшчэ радзей — крытычнаму. Але ў чэрвеньскім нумары «Полымя» ўсе крытычныя артыкулы і рэцэнзіі варта назваць выдатнымі. Першае, што хацелася б адзначыць, — гэта разнапланавасць і грунтоўнасць твораў, выбраных для аналізу: тут і захапляльная «Гісторыя праз лёсы» Алеся Марціновіча, і тонкая, экзатычная паэзія Лі Хэ ў перакладзе з кітайскай Алены Раманоўскай, Тацяны Сівец, Юліі Алейчанка і Леаніда Дранько-Майсюка, і грунтоўная манаграфія Анатоля Крыварота пра ўзаемадзеянне партызанскіх фарміраванняў Беларусі і Расіі ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Шчыра ўзрадавала якасць крытычных артыкулаў: не было тэкстаў павярхоўных, з агульнымі фразамі, штампамі і абагульненнямі — усё лаканічна, трапна і непрадуузята.

**Сумніўна.** Неадназначным падалося апавяданне Валянціны Янавец «Фраў "Кудлатая"». З аднаго боку — арыгінальная задума паказаць Брэсцкую крэпасць з новага ракурса, праз містыфікаваную асобу разведчыцы Ксеніі Аксёнавай. Але ж у праўдзівасць гэтай гісторыі паверыць цяжка. Ці таму, што напісаная яна творцай, якая нарадзілася праз шмат часу пасля вайны. Ці не хапіла майстэрства слова? Варта заўважыць, што ёсць некалькі вельмі кранальных эпізодаў, якія сапраўды чапляюць. Але і яны неяк губляюцца ў сюррэалістычнай плыні апавядання.

**На суд чытача** хочацца пакінуць падборку сучаснай пакістанскай паэзіі ў перакладзе Алеся Бразгунова і Адама Шостака. Здаецца, што нам ніколі не зразумець гэты далёкі для нас народ. Але ўсіх яднае літаратура! Сучасная пакістанская паэзія нагадвае духмяную кветку з цудадзейным водарам. Яна шчымліва-лірычная і лятуценная. Чытаючы пакістанцаў, разумееш, што жыццё чалавека кароткае і яго нельга разменьваць на дробязі. Ці атрымаецца беларускім чытачам пашырыць геаграфічныя, сацыяльныя, культурныя ўяўленні пра Пакістан разам з «Полымем»? Будзем спадзявацца!

* * *

**Выдатна:** паэтычныя падборкі Ірыны Багдановіч, Аляксея Клацкога, Вольгі Злотнікавай. У адрозненне ад тэкстаў іншых жанраў, паэзія гэтага нумара «Нёмана» атрымалася надзвычай гарманічнай. Аўтары пішуць на розных мовах, маюць розны творчы досвед, але іх вершы аднолькава ўзнёслыя, крыху рамантычныя, азначаныя пачуццём духоўнага характва.

Вершы маладой паэтэсы Вольгі Злотнікавай нагадваюць, што вобразнасць мастацкай мовы вызначаецца не толькі багаццем тропаў (слоў, ужытых у пераносным значэнні), але і сінтаксісам, ад якога залежыць інтанацыя і эмацыянальная афарбоўка паэтычнага радка. Верш без складаных метафар будзе ўспрымацца як мастацкі твор дзякуючы адметнаму паэтычнаму сінтаксісу — рытарычным пытанням і зваротам, паўторам, іншым сінтаксічным фігурам, якія выкарыстоўваюцца ў меру і з густам.

Творы Ірыны Багдановіч — прыклад паэзіі, якую варта перакладаць, каб прадставіць рускамоўнаму чытачу светаўспрыманне аўтара з беларускім поглядам на рэчаіснасць. «Галасы фрэсак», «Дзіцячы дом», «Урокі беларускай мовы» — той непасрэдны водгук праніклівай душы, які дазваляе адчуць наш час непараўнальна глыбей, чым хрэстаматыйныя карцінкі кшталту «бусел над жытам».




**Сумніўна:** п'еса Мулка Раджа Ананда «Тры зарокі». Твор англамоўнага індыйскага пісьменніка XX стагоддзя — адна з самых дзіўных і экзатычных публікацый нумара. Тры зарокі не ўспрымаюцца як адкрыццё, хуткі фінал здзіўляе: здаецца, апублікаваны тэкст — толькі першы акт, завязка п'есы. Разам з тым, зварот да асобы легендарнага Махатмы Гандзі, тэма духоўнага жыцця, праблема выбару мастацкай стратэгіі ў эпоху «пасля Джойса» інтрыгуюць і гарантуюць цікавасць да твора.

**На суд чытача:** Антон Алешка «З дзённіка ваеннага ўрача». Дзякуючы творам дакументальных жанраў сучасны чалавек можа паглядзець на Вялікую Айчынную вайну вачыма многіх яе ўдзельнікаў. Рэальнае ўспрыманне ваенных падзей апынаецца вельмі розным. Перамога над ворагамі — вядома, «ура!». Але іншым часам халодна, хочацца спаць і цяжка на душы, бо няма вестак пра сваю сям'ю. У дзённіку ўрача-пісьменніка мала яркіх батальных гісторый, але шмат трапных назіранняў і жыццёвай праўды. А адна з самых вялікіх радасцей на вайне для чалавека кшталту быкаўскага Фішара — сустрэча з разумным чалавекам і «галоўнае — чалавекам!».

* * *

**Выдатна.** Згадваецца выказванне Іосіфа Бродскага наконт высокай, «сталай» літаратуры. Яе, па меркаванні паэта, адрознівае «вкус к метафизике». Уменне між радкоў проста гісторыі выказаць нешта большае, што закране і розум, і пачуцці, — неацэннае. Для яго аднолькава неабходныя зоркае сэрца і гады працы. Першае ёсць у маладых аўтараў чэрвеньскага нумара «Маладосці». Тэмы іх вершаў і прозы важкія, таму часам — непад'ёмныя. Узорам жа вялікай літаратуры могуць паслужыць перакладныя творы нумара — эсэістычная проза Германа Гесэ і апавяданне Жана Жыано «Чалавек, які саджаў дрэвы». Яны найперш вартыя ўвагі. Герман Гесэ тут паўстае чалавекам маладым (апавяданні з ранняй прозы), ён у пошуку маральных крытэрыяў, якія можна было б прыкласці да практыкі, да самога жыцця. Сумненні ў сабе, дзіцячыя ўспаміны, якія востра перажываюцца ў сталым узросце, набліжаюць майстра метафізічнай прозы да рамантычных Цвейга і Мана. У той час як Жан Жыано — зямны і прамаўляе пра сапраўды бязмежны патэнцыял чалавечай волі, якая можа змяніць жыцці тысяч людзей. Назвыклая для сённяшняй літаратуры тэма. Але менавіта яе, стваральнай сілы мастацтва наўзамен рэфлексіям, так не хапае цяпер.

**Сумніўна.** Тут хацелася б сказаць не пра пэўны твор, але пра тэндэнцыю, якая прасочваецца ў творчасці найноўшага літаратурнага пакалення. Адмова ад рыфмы і рытмізаванага радка не зробіць вас арыгінальным. Здаецца, відавочна, але гэты «ход» чамусьці ўсё яшчэ лічыцца выйгрышным. Зрэшты, гэта толькі фармальны бок справы. Сутнасць у іншым: чамусьці аўтары лічаць патрэбным звяртацца найперш да інтэлекту суразмоўцы-чытача. Але ж паэзія — стыхія. Найглыбейшая думка пройдзе незаўважнай, калі не закране сэрца. Філасофскі пошук неад'емны ў юнацтве, але варта памятаць: найперш ён патрэбны табе самому. Чытач чакае мастацтва!




**На суд чытача.** «Маладосць» адыходзіць ад фармату літаратурнага часопіса і робіцца пляцоўкай публіцыстычнай. З аднаго боку, перспектыўны шлях: большая аўдыторыя, уключанасць у грамадскае жыццё, шырокі ахоп аўтараў. З іншага — верагодна згубіць даўнюю аўдыторыю і менш літаратурных імёнаў, абмежаваная плошча пад уласна прозу і паэзію. Што для вас мае большае значэнне?

# Тупік для моцных

Мужчыны не плачуць. А дарма.

Такі кароткі пераказ артыкула Сандры Ньюман «Мужчына ў слязах», надрукаванага ў перакладзе на беларускую (перакладчык — Маргарыта Пражога) у чэрвеньскім нумары часопіса «Маладосць». Сучасная амерыканская пісьменніца задаецца двума пытаннямі: чаму сёння мужчынам негалосна забаронена плакаць (і ўвогуле — выяўляць эмоцыі) і што з гэтага атрымліваецца? Шкода ці карысць?

У пошуку аргументацыі пісьменніца звяртаецца да калег, дакладней, да літаратурных твораў далёкай мінуўшчыны. У спіс патрапілі «Іліяда» Гамера, «Песня пра Раланда», японскі эпас «Аповесць пра дом Тайра», сярэднявечны раман «Ланцэлот» Крэцьена дэ Труа, «Споведзь» Аўгусціна, дзённік Ігнацыя Лаёлы, нават Біблія. І ўсюды прадстаўнікі моцнай паловы чалавецтва — у аблічны рыцараў, мніхаў, дыпламатаў, мужоў і айцоў, сяброў і каханкаў — аддаюцца на волю пачуццяў.

Артыкул спадарыні Сандры надзвычай цікавы дзякуючы падбору крыніц ды абранай тэме. А яшчэ ён азначаны строгай логікай: абвінавачванне — доказы — прысуд. Эмацыянальная дыскрымінацыя мужчын — прыклады ў стылі «няма таго, што раньш было» — прадбачанне сацыяльнай катастрофы. Зрэшты, яна ўжо наступіла, толькі спісваецца на іншыя прычыны. Так, у краінах Скандынавіі, тэхічна развітых і забяспечаных, найбольш высокі працэнт смяротнасці. Пераважна — сярод мужчын. І прычынай не суровы клімат ды рэдкае сонца. Сандра Ньюман прыводзіць цытаты з сярэднявечнай літаратуры, дзе красамоўна апісваецца стрыманасць скандынаўскіх мужчын. У той час як французскі рыцар горка аплаквае смерць сябра, скандынаўскі ваяр моўчкі сузірае пейзаж. Такая нацыянальная рыса, як бачым, не ідзе на карысць паўночным мужчынам.

Але — калі б толькі нацыянальная рыса! Сандра Ньюман прыходзіць да высновы, што мужчынскія слёзы зніклі разам з феадальным ладам. Індустрыяльнае грамадства, якое змушае людзей да калектыўнай працы — у чужым, незнаёмым асяродку, — змусіла і прыхаваць эмоцыі. Не таму, што гэта ганебная слабасць. Проста слёзы замінаюць працаваць. Ганебнай слабасцю яны сталі лічыцца пасля як следства грамадскіх перабудоў.

Вядома ж, амерыканская пісьменніца не заклікае тут жа кінуць работу, сесці і зарумзаць. Але змяніць стаўленне да праяў эмоцый у мужчын, праяў публічных, — вось гэта сапраўды задача. Бо, загнаныя ў тупік, яны пазбаўлены адпрыроднага права выпусціць пару і вымушаны ісці шляхам самаразбурэння: алкагалізм, наркаманія ці проста, што называецца, выйсці ў акно.

Тое, што артыкул быў перакладзены для беларускага часопіса, не выпадковасць. Беларускія мужчыны — такія ж зацятыя і маўклівыя, тыповы партызанскі тып. Колькі разоў даводзілася чуць пра тое, як цяжка выцягнуць з хлопца расповед пра набалелае, пра турботы, няўдачы. Эмацыянальная дыстрафія гадуецца ў нашых мужчынах з дзяцінства, калі хлопчык, прыкладам, падае з ровара і маці, пабачыўшы слёзы ў сынавых вачах, строга адразае: «Плачуць дзяўчынкі! Ты што, дзяўчынка?!» Уменне не плакаць зрабілі атрыбутам мужнасці. Але, здаецца, перастараліся.

Праблема гэтая актуальная для нас не ў меншай меры, чым для тых жа скандынаваў. Дый згадаць мужчынскія слёзы ў беларускай літаратуры… Штосьці не згадваюцца.

**Наста ГРЫШЧУК**

# У зачараваным коле

Фантастычная аповесць Генадзя Аўласенкі «Знесеныя часам» надрукавана ў 5-м — 6-м нумарах часопіса «Нёман». Першая частка падаецца пачаткам выдатнага твора для падлеткаў. Дзяўчынка Саша і хлопчык Ваня, якія жывуць у сучаснай расійскай вёсцы, знаходзяць у закінутай пуні дзівосны апарат і трапляюць у іншы час з мэтай адшукаць Сашынага тату, які таямніча знік, калі дзяўчынка была зусім маленькай. Саша спадзяецца трапіць у будучыню, але апынаецца ў 1607 годзе: Смутны час, паўстанне Івана Балотнікава... Да таго ж, па дарозе губляе сябра — яго таксама трэба знайсці.

Далей гераіня павінна была б пераадолець некалькі выпрабаванняў, з рознымі перашкодамі адшукаць патрэбных людзей і вярнуцца дадому. Па сутнасці, усё так і адбываецца — развязка прадумана добра, але... У пэўны момант дзяўчынка трапляе ў зачараванае кола — замест таго каб рухацца наперад, яна вяртаецца туды, адкуль толькі што ўцякала, сустракае адных і тых жа персанажаў — жывых ці мёртвых, пагрозлівых ці добразычлівых. Сітуацыя вакол Сашы хутка мяняецца, але гераіня на яе амаль не ўплывае — то кідаецца ў слёзы, то страчвае прытомнасць, хаця ў прынцыпе паўстае асобай смелай і вытрыманай.

Галоўны мэсэдж твора: сярэднявечча — час бязлітасны і жорсткі, але будучыня чалавецтва абяцае быць яшчэ горшай. Прыкладаў гэтаму знаходзіцца нямала.

Вядома, у творы для падлеткаў можна аднойчы зазначыць, што сустрэча з суровымі, дужымі мужчынамі рызыкуе сумна скончыцца для безабароннай дзяўчынкі. Аднак колькасць інтымных сцэн у другой частцы раптам вымушае задумацца пра верагоднага чытача аповесці.

Генадзь Аўласенка піша цікава і дынамічна (часам можна нават затрымаць развіццё падзей, каб чытач крыху перадыхнуў), не забываецца на іронію, выдатна будуе дыялогі. Чаму б не напісаць аповесць пра падлеткаў, «знесеных часам» ужо на абсягах Беларусі?..

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# «Мой жораў з выраю не вернецца ніколі…»

**Як часта ў старым будынку Нацыянальнай бібліятэкі, у беларускай зале, можна было яе сустрэць! Святлана Явар… Заўжды сур'ёзная, засяроджаная, яна працавала над кандыдацкай дысертацыяй, рыхтавалася да абароны. Святлана і адзін з маіх сяброў былі тады калегамі, таму мы з ёй завочна ведалі адна адну. Але ні ў мяне, ні ў яе не хапіла рашучасці падысці і пачаць размову першай, павіншаваць з чарговай публікацыяй ці проста спытаць, як настрой...**









Святлана Явар (Сачанка). 1968 — 2011.

Нашмат пазней я даведалася ад агульных знаёмых, што яна раптоўна памерла, — і доўга перажывала, не магла знайсці сабе месца. Мне здавалася, што калі б яшчэ тады, у бібліятэцы, я зрабіла крок насустрач, мы абавязкова пасябравалі б і яна не была б настолькі адзінокай, што найлепшым сябрам лічыла бацьку, які ўжо адышоў у іншы свет.

І цяпер, калі Святланы няма з намі, я спрабую праз яе вершы зазірнуць ёй у вочы, наблізіцца, спазнаць як асобу. За сваё няпоўныя сорак тры гады (не дажыла да дня нараджэння ўсяго месяц) Святлана Явар выдала дзве кнігі паэзіі: «Раніца ў туманах» (Мінск: Бібліятэка часопіса «Маладосць», 1994) і «Белы месяц» (Мінск: Мастацкая літаратура, 1994). Рэгулярна друкавала вершы ў рэспубліканскіх перыядычных выданнях.

Паводле даследаванняў у галіне псіхалогіі, у характары любога чалавека ёсць і жаночы пачатак, і мужчынскі ў розных суадносінах, незалежна ад таго, хто перад намі — жанчына ці мужчына. Але пра лірычную гераіню Святланы я сказала б, што яна — жанчына на ўсе сто: зменлівая, як вада ў бурлівай крыніцы, здольная растаць у цёплых руках каханага, згодная прыняць любую форму ў яго далонях. І поўная супярэчнасцей. Ці характэрна гэта і для самой паэткі?

Псеўданім, які Святлана абрала для сябе, — Явар. Пры гучанні ўзнікаюць асацыяцыі з чымсці цвёрдым, моцным, мужчынскім… Па значэнні гэта дрэва — белы клён; назва, распаўсюджаная ва Украіне. А вершы — жаночыя, журботныя, лейтматыў добрай паловы іх — туга па каханым, немагчымасць спраўдзіцца без адчування побач роднай душы, сум па той спрадвечнай жаночай долі, калі аддаеш сваё жыццё абранаму, Богам дадзенаму, цалкам у ім растаючы:

*Страшней за адзіноту ўсведамленне,*
*Што не знайсці больш роднаснай душы.*

Адзін з самых яркіх сімвалаў лірыкі Святланы Явар — ружа. Ён знакавы для майго разумення самой Святланы, бо пры разглядзе яе фотаздымкаў на старонках выданняў у мяне ўзнікаюць асацыяцыі менавіта з гэтай кветкай: бездакорна прыгожы, круглы твар, яркія вочы, выразнымі дугамі чорныя бровы над імі, поўныя, яскрава акрэсленыя вусны, цёмна-каштанавыя пышныя валасы. Усё яе аблічча налітае прагай жыцця і любові, яна раскрытая насустрач свету. Міжволі згадваюцца словы народнай песні:

*Чырвоная ружа, не стой пры дарозе!*

Вобраз ружы ў вершы «Паратунак», дзе зліваюцца пачуцці лірычнай гераіні, што прагне ўзаемнага кахання, і прыгажосць дзікай, вольнай кветкі, характэрны для лірыкі Святланы:

*…Няўзнак*
*Я чырвонаю ружай калючай*
*Паўз драты твае вырасту так,*
*Што не будзе мне роўнай ніколі*
*Сярод красак бяскрайніх палёў.*
*І не знойдзе сабе той паталі,*
*Хто ў драты мяне гэтыя ўплёў…*

Для Святланы ружа — сімвал кахання, найвышэйшага па сваіх вібрацыях зямнога пачуцця, якое дае адчуванне вышыні, палёту, неўміручасці.

Святлана не баялася эксперыментаваць з рытмам, што дадае новыя ноты гучанню яе паэзіі. Чытаючы падобныя творы, разумееш: галоўнае — не што сказаць, а — як сказаць. Доказам — верш «Чаканне»:

*Мой жораў з выраю не вернецца*
*ніколі,*
*відаць.*
*Бо напаткала ў чыстым полі*
*яго бяда.*

*Дарэмна птушку выглядаю*
*з акна.*
*Ляцець змарнелай не жадае*
*яна.*

*Хоць жорава я ўпарта клічу*
*сюды,*
*адно зязюля скрушна лічыць*
*гады…*

У наступным творы да адметнай рытмічнай карціны далучаецца матыў самаіроніі, і асоба аўтаркі раскрываецца перад намі ва ўсім багацці сваіх душэўных якасцей. Бо іранізаваць з сябе здольны далёка не кожны:

*Прыступак рад*
*вядзе ў дзівосны Сад:*
*там асыпае зоры лістапад.*

*Вясны пагляд*
*уміг мяняе Сад:*
*там апякае вусны сэрцапад.*

*…Палае Сад;*
*гарачы ў жніўні Сад!..*

*…Сад спіць,*
*бо вяне ў снегапад…*

*Прыступак рад,*
*ты прывядзеш у Сад?*
*Цябе? Ды не — наўрад.*

Лірычная гераіня Святланы Явар узнымаецца над сваёй адзінотай, пачуццём душэўнай незадаволенасці, неўладкаванасці, над горыччу ад таго, што каханне яе — не ўзаемнае. Калі «адпускаеш» крыўду, адкрываецца разуменне: каханне, нават не ўзаемнае, само па сабе — шчасце, бо напаўняе душу новымі, нязнанымі дагэтуль перажываннямі, узводзіць яе на новыя вышыні, дае новыя адчуванні, новы досвед духоўнага перажывання і росту, новае разуменне, далучае да пачуцця сусветнай любові, якая існуе незалежна ад адзінкавага чалавечага лёсу:

*Вясна.*
*Не можна без цябе.*
*Сумую.*
*Удалячынь*
*пішу табе лісты.*
*І на паштоўцы*
*кветачку лясную*
*дару… Дарую,*
*што не любіш ты.*

Ёсць у Святланы Явар шмат пейзажных вершаў. Асабліва кранаюць тыя, у якіх пачуцці лірычнай гераіні зліваюцца з рухамі прыроды. Узнікае маляўнічая карцінка, дзе мы заўважаем кожнае адценне і адчуваем самы слабы павеў ветрыку.

*Губляюць сосны залаты пылок,*
*А зоркі ціха гаснуць на світанні.*
*І квола разгараецца каханне,*
*І крыльцамі трапеча матылёк,*
*Узняўшыся над полымем жадання.*

Лес ў паэзіі Святланы — як ідэальны суразмоўца, які цалкам разумее яе душу і адлюстроўвае ўсе яе памкненні:

*У лесе ціш. Ласкавы дотык голля*
*нагадвае цяпло тваёй рукі.*
*Бясспрэчна, што і заўтра,*
*як і сёння,*
*не будзе ні цябе, ні рук тваіх.*
*І ні вачэй, ні голасу… Завошта?*

Святлана не проста любіла навакольныя лясы, і лугі, і рэчкі, і ўсе шолахі голля, і адценні лістоты, — гэта было часткай яе светаадчування, часткай яе самой. Прырода паіла яе жыццядайнай сілай, загойвала раны, дапамагала перажыць боль і знайсці новы сэнс. Душа яе заўжды супакойвалася сам-насам з морам, ветрам, зорным небам.

Ці прадчувала Святлана заўчасны сыход? Чаму лёс яе склаўся менавіта такім чынам? Гэта ведала яе душа, а нам засталіся вершы, дзе ёсць адказы на ўсе пытанні:

*А мы штодня з табой сядзелі*
*У тым двары,*
*Дзе паламаныя арэлі*
*І клён стары.*

*Яно мінулася і знікла,*
*Як не было.*
*Ах, адчуваю я ўжо звыкла,*
*Што ўсё прайшло…*

**Таццяна БУДОВІЧ-БАРАДУЛЯ**

# Якіх ахвяр патрабуе мастацтва?

**Часам творы літаратуры і мастацтва вельмі цікава пераплятаюцца. Мастакі пішуць карціны, натхніўшыся вершам ці раманам, а пісьменнікі ствараюць выбітныя рэчы са слоў пад уплывам уражанняў ад прыгожых палотнаў. Вось і маладая літаратарка Вікторыя Сінюк не засталася абыякавай: пабачыўшы карціну Фёдара Васільева «Адліга», напісала надзвычай лірычнае, прасякнутае тугой і самотай апавяданне «Нота».**

Для тых, хто не бачыў гэтай карціны, варта сказаць, што на палатне намаляваны панылы сыры пейзаж з размытаю дарогай, на якой бачныя дзве постаці — дарослага і дзіцяці. Падталы снег, паўразбураная хата, шэрае неба — усё быццам бы патыхае пранізлівай безнадзейнасцю. Менавіта такія пачуцці ўзнікаюць і падчас чытання празаічнага твора Вікторыі Сінюк у майскім нумары часопіса «Маладосць». Пісьменніца апісвае адваротны бок кахання, без вясёлкі і матылькоў, без ілюзій і мар — толькі пабляклае, прыглушанае святло, якое болей не паглынае і не зачароўвае. Такое адбываецца, калі сэрца аддаеш таму, хто закаханы толькі ў сябе і сваю творчасць, хто дзеля ўдала напісанага палатна здольны адмовіцца ад роднага і блізкага чалавека. Вядома, мастацтва патрабуе ахвяр. Але ж ці такіх?

Па шчырасці, даўно не даводзілася чытаць... геніяльна простых тэкстаў. Апошнім часам маладыя аўтары імкнуцца да арыгінальнасці, складаных сюжэтаў і форм, перанасычаюць творы рознымі прыёмамі і мастацкімі сродкамі выразнасці, але забываюць пра самае галоўнае — сэнс. Тэксты, можа, і атрымліваюцца прыгожымі і вытанчанымі, але ў іх няма іскрынкі, няма, як бы банальна гэта ні гучала, душы. Вікторыі ўдалося амаль немагчымае — напісаць пра каханне, без пафасу і дзявочых слёз, але вельмі кранальна і шчымліва. Аповед атрымаўся трагічны, тонкі, жыццёвы, пранізлівы, які па-сапраўднаму чапляе. Нягледзячы на празмерную эмацыянальнасць, гісторыя атрымалася цікавай, бо напісана дынамічна і захапляльна. Падзеі і павароты — не адарвацца! Аповед хочацца перачытваць, кожны раз спадзеючыся на іншы, шчаслівы, фінал.

**Дар'я ЛАТЫШАВА**

Казімір КАМЕЙША



# Туркменскі далягляд

## Пералёт

Сувенірны вярблюд
Зноў мне шлях мой паўторыць.
Груд кладзецца на груд,
Дзіўна горбяцца горы.

Мы высока ляцім,
Шлях высокі — як боязь.
Зорнай ночы кілім
Крэсліць знічкаю «Боінг».

Толькі вокам зірнеш —
І душа замірае.
Дзіўнай грэшніку мне
Стрэча выпала з раем.

Там, за бортам, — Усход,
Сумна пеніца мора.
І на ўвесь самалёт
Нас, крылатых, сямёра.

Што для лёту вярста —
Як па хаце паўкроку!
Ды трывожліва там,
Недзе з левага боку,

Цісне нейкі ўспамін,
Невядомасць муштруе.
Толькі сам я, адзін,
Гэтым рэйсам кірую.

Страх глыбей, недзе ў сон,
Я запіхваю, грэшны.
Але ўпарціцца ён,
Лезе з воч маіх смешна.

Там, пад намі, — агні,
Выспы нейкія, дахі.
Хопіць, шмат вышыні,
Але больш яшчэ страху.

Ну зусім як хлапчук,
Сам сябе і здзіўляю.
Я ж на ніткі лячу,
Што матуля трымае.

Не адпусціць яе,
Не слабенькая быццам.
Хай Бог моцы дае
Ёй і гэтае ніткі.

А званочак звініць
У вушах мімаволі.
Вось, нарэшце, агні,
Што пасадку дазволяць.

Нібы хтосьці з аблок
Параскідваў падушкі.
— Як ляцеў ты, сынок?..
— Лепш спытайцеся ў птушкі!..

***

Дзень дыміць, як нязвыклы казан,
Дзе навін гэтак варыцца многа.
Мне мой сябар Ганад Чарказян
Звершаваў з дзіўных рыфмаў дарогу.

Ашхабад, Ашхабад,
Як з паднеб'я пагляд,
Нейкі казачны сад
Ці вярнуў мяне ў сны,
Ці да явы сваёй прызвычаіў,
І пра ўсё незямное цяпер я, зямны,
Буду думаць
І сніць нават буду начамі.

Цераз горы, пад сонцам наўпрост,
У вясёлкавых пырсках фантанаў,
Як вялізны паўлінавы хвост,
Узлятае мой шлях апантана.

Ашхабад, Ашхабад…
Жмурыць вочы Ганад,
Нібы кнігу ўспамінаў далёкіх гартае.
Як я, грэшны, патрапіў у райскі той сад,
Сам сябе ўсё пытаю.

Я знаёмую стужку назад адкручу,
Дзе мой позірк блукае ад зоркі да зоркі.
Птушка райская проста мне ў сэрца
ляціць,
Мые ў лазні фантана адчайныя пёркі.

І жаласліва тая мне, з раю, пяе,
Што маўклівай слязы на вачах вымагае.
Не, напэўна, то выдумкі толькі мае —
Мне спявае другая,

У якое ні саду свайго, ні гнязда
І на крылах даўно ўжо акрэслены выраj.
За яе, што і сам не пражыў, я аддам,
Я кажу гэта шчыра.

Ты мне, райская, ўсё ж
за мой смутак прабач.
Новым разам у казку тваю ці прыйду я.
Плакаць ты не умееш.
Дый што гэта — плач?
Мабыць, я яго сам, выдумляка,
прыдумаў…

***

Цёпла ў небе воблаку і птаху.
Клікаў небам і мяне мой лёс.
У ауле неяк раз папаху
Аксакал сардэчна мне паднёс.

Падарыў і нават хітравата
Падміргнуў, разумны чалавек.
Цёпла, ціха, нават цяжкавата
Сталася адразу галаве.

Радасці было і нават страху,
Быў цішэй вады, ніжэй травы.
Хоць лягчэй ад шапкі Манамаха,
Ды з чужой усё-ткі галавы.

На свае мінулае без страху
Азірнуцца зноў гады мае.
Калі дорыць аксакал папаху —
Мудрасці ў прыдачу дадае.

***

Роўна, ціха воблакі плылі
Пасмамі бясконцае кудзелі.
Роўна, як радкі Махтумкулі,
Птушкі незнаёмыя ляцелі.

Ціха падыходзіла вясна,
А ў вачах даўно гарэла лета.
Гэтак незвычайна і яна,
Думка, пачыналася ў паэта.

Алена БАСІКІРСКАЯ



***

Мой Мінск, сумую па табе,
Па гулкіх вуліцах,
праспектах.
Я у палаючай журбе…
А ты сумуеш па паэтах,
Якія вершы для цябе
У летуценнасці складаюць
І у нястрыманай журбе
Сваёю мовай прысягаюць?
Мой Мінск, сумую па табе.
Я застаюся ў адзіноце.
І, патанаючы ў журбе,
Мне сумаваць ужо — авохці!
Ды ўсё-ткі сум,
як жорсткі звер,
Мяне павольна паглынае.
Мінск, я люблю цябе, павер.
Любоў мая —
журба святая.

***

Даўно ўжо вершаў у дарозе
не пісала,
Дазволь мне, Божа,
плённа распачаць.
Пачуцці голаў поўняць
(іх нямала).
Струменіць дождж,
і хочацца спяваць.
Рука ад грукату аўтобуса
трасецца,
Марудна думкі спеляць
галаву.
Сваёй паэмай Вы працялі
сэрца,
Анёлам Божым Вас
я назаву.
Хоць да анёла Вам
яшчэ далёка,

Каму не ведаць,
як рупліўцы мне.
Да рыфмы не раблю
імклівых крокаў,
Не б'юся за яе,
як на вайне.
Хачу свой верш
спатоліць
сэнсам поўным,
Вы навучылі гэтаму
як след.
Люблю і Вас, і вершы —
мне ўсё роўна,
Што я пакуль,
быць можа, не паэт.
Не піша ручка, аркуш
краем свеціць,
Але я ўсё ж паспею
напісаць:
Вы, мабыць,
найцудоўнейшы у свеце.
А рыфма просіць
светлага — кахаць.

***

Пра што спявае трубадур?
Пра мройнавейную мадам.
Пра што раскажа
нам амур?
Быць можа, пра
шэрш ля фам?

Нябачны Франції уплыў:
Пардон, мэрсі, о'рэвуар.
Ды беларускіх слоў узвіў —
Праява самых светлых
мар.

***

Наглядзецца не магу ніяк
У бяздоннасць
зорачак-вачэй.
Ты мне не сябрук і не сваяк,
Ды за іх намнога даражэй.

Наглядзецца не магу ніяк
На чарнявасць тонкіх
валасоў.
Ты мне не сябрук і не сваяк.
Ты — мая шчымлівая
любоў.

Наглядзецца не магу ніяк
На пяшчоту мяккіх,
родных рук.
Ты мне не сябрук і не сваяк.
Лепш бы быў сваяк
або сябрук.

Наглядзецца не магу ніяк
На прывабны,
светлы вобраз твой.
Ты мне не сябрук і не сваяк,
Проста ты навечна
толькі мой.

***

Паэт! Тваёй душы святло
Прастор жыццёвы
асвятляе.
Паэзія — тваё крыло,
Якое свет наш акрыляе.
Ты словы вершамі пляцеш,
Вянок паэзіі ствараеш.
Па сцежцы лёгкай не ідзеш,
Пароль сабе шукаеш.
І люд наш слухае цябе
Ды зборнікі твае чытае.
Паэт! Ты пашкадуй сябе!
Хай Бог цябе благаслаўляе!

***

Мяцежны дух мяцежнага
жыцця,
Мяцежны подых марных
успамінаў.
Выходжу я на мройлівы
прасцяг,
Дзе не адзін, блукаючы,
загінуў.
Выходжу я на слізкі
п'едэстал,
Прастую ў свет,
зацёліва-прымхлівы,
Дзе ні адзін шчаслівчыкам
не стаў,
Ды не адзін надзеі
нам пакінуў.
Праходжу вір сумётлівы
завей
І заxіну сябе авечай поўсцю.
Маё жыццё — самотлівы
Брадвей,
І ў ім ці гаспадыня я,
ці госця.
Я узбяруся на круты
трамплін
І не паспею шчэ як след
стаміцца,
Калі ужо стаміўся не адзін
І не адзін задумаў
прыпыніцца.

Лілія МЯЛЕШКА



## Зямное

Прыніжаным не бойся быць,
Прыземленасці не цурайся
І ад жыцця не адракайся,
Калі душа наўзрыд баліць.
Пчала над кветкаю гудзе,
Камар — над сажалкі люстэркам.
Якім ні быў бы айсберг зверху,
Сем восьмых айсберга — ў вадзе.
Аснова — корань у раллі,
Якім ні быў бы колас стромкім.
Якім ні быў бы дом высокім,
Яго фундамент у зямлі.
Не можа знаць, чыя віна,
Не скардзіцца на злую долю,
Вярба згінаецца да долу,
Таму й не ломіца яна…
Закручвае спіралі крот,
Выкручвае снягір па снезе,
Глыбока ў глебу зерне лезе,
Каб даць расток, і цвет, і плод.
Ўсіх да сябе зямля заве:
Матыль зімуе ў цёплай глебе,
Пяе жаўрук высока ў небе,
Гняздо ж будуе — у траве.
Як шчасце на зямлі займець?
Ці толькі на вяршынях радасць?
Бо зверху можна толькі падаць,
А знізу можна і ўзляцець.
Бясспрэчна, вышыня натхняе…
Ды ўсё ж зямля дае штуршок.
І сцеражэ твой першы крок,
І — у сябе цябе прымае.

## След на траве

Гудуць радаводы, вядуць пакаленні
Да нас, і між нас, і паўз нас,
і скрозь нас.
Спяшаюцца, рвуцца хвіліны-імгненні,
Снуюць. І складаюцца ў час.

А час прысьпашае, а час дабаўляе
І важкасці ў кроках, і стомы
ў вачах…
Ідзе чалавек па зямлі, пакідае
Адзначаны справамі шлях.

Ці многа зямнога адмерана часу?
Ці, можа, ўжо заўтра з арбіты сарве?
…Не мару праклáсці ні сцежку,
ні трасу —
Пакінуць бы след на траве.

## Радзіма

А птушкі штогод у вырай лятаюць,
Тонкія крылы ірвуць.
А іх там не любяць, іх там
не чакаюць —
І там яны не пяюць.
І ежу, што выпадкова знаходзяць,
Без асалоды клююць,
Сямей не заводзяць, дзяцей
не выводзяць
І нават гнёздаў не ўюць.
Яны існуюць там — часткова,
часова,
Ім толькі б сілы займець,
Пачуць, як важак скажа ўласнае
слова —
Зноў на Радзіму ляцець.
Зноў крылы ірве чарада — падлятае,
Шукае азёры свае.
Мясціны свае яшчэ ў небе пазнáе
І тут свае гнёзды саўе.

***

Стракозы, рамонкавы луг,
Нябёсы бялеюць аблокамі…
Маленства бяспамятны круг
Зарніцамі ззяе далёкімі.
Падснежнікаў белых святло
Лунае вясельнымі строямі…
Юнацтва крутое крыло
Звініць недасяжнымі мроямі.
На возеры сонечны блік
Душу напаўняе ўспамінамі,
І мудрасці тонкі разлік
Пад восень гарыць арабінамі.
Жыццё хоць пражыта на трэць,
Чакае наперадзе лепшае!
Не будзем, не хочам старэць.
Мо станем хоць трошкі
сталейшымі…



Георгій МАРЧУК

# Радзічы

**(народная назва квартала ў Давыд-Гарадку)**

У Радзічах каля самай ракі жылі адны рыбакі, а сярод іх хлопец адзін рос, які нечакана пайшоў працаваць у калхоз. Ніхто не кажа ў нас — калгас. Цяжка было зразумець: чаму ён туды прэць. Быў трошкі дзікаваты, можа, таму што яго бокам абыходзілі дзяўчаты. Крайняй хатай у Радзічах была хата Шкоды, стаяла яна на прыкрай кручы, хрысціліся ўсе побач ідучы. Вір там быў глыбокі, вяслом дна не дастаць. З вудай дзяцей да кручы ніхто не рызыкаваў пускаць. Дзядзькі ў гадах лавілі там часам сама на жыўца. А смелы Пятро ў вір той даваў нырца. Вынырваў, трымаючы іл у руцэ, маўляў, я дно дастаў у вашай рацэ. Казалі яму: «Бяры насенне, рабі ношку, едзь на Вэсну ды заробіш грошай трошкі. Шукай сабе пару, ты ж ладны ды дужы хлапец, вядзі і ты дзяўчыну пад вянец». Ніхто Пятра не разумеў, а ён іншай жыткі хацеў. Кажа, бягу я ад адзіноты рыбака ў калхоз да людзей — там весялей. Адна нудота — рыбака работа. Гарадчук у калгас не ходзіць, гэта аўтарытэту яго шкодзіць. Не паслухаў Пятро, пайшоў. На жаль, калгасу ён не дапамог, хутка калгас здох. Пятро не здрадзіў сяброўству. Амаль кожны вечар ішоў да чайнай з былымі калгаснікамі на сустрэчу. Быў для яго колісь калгас, як народнае веча. Ды нешта пайшло не так. Захацелі людзі ўсе жыць паасобку, як рыбак. Больш не даваў ён і нырца, прапала ахвота ў хлапца.

# Кодак

**(народная назва квартала ў Давыд-Гарадку)**

Да Выганя ісці далёка, кароў туды гоняць пастухі, там недалёка Кодак ёсць. Куток глухі, пра яго на Балоце не чулі. Але растуць у дзеда, у Майсюка, смачныя грушы, па-нашаму «дулі». Каб іх скрасці, трэба патрэбныя снасці, а мы іх не маем. Яшчэ з падваротні брэша сабака, нікога ён не мінае. Не падыходзь, закусае. Да таго ж у Майсюка моцная, халера, рука. Вуха так закруціць, што аж пішчыш. Хлопчык гадоў дзесяці трывае, сабаку трымае, каб не ўкусіў. Кажам яму: «Хочаш з намі ў крэглі гуляць? Вынесі грушу пакаштаваць. Яшчэ і ў хованкі возьмем гуляць». Ён вынес не «дулю», а грушу другую, і за тое яго дзянькуем. Ветліва нам усміхнуўся і, як падалося, грушамі дзеда ён ганарыўся. Можа, ад тое пары паэт у ім і нарадзіўся.

# На Партызанскай вуліцы

Партызанская вуліца да Калгаснай туліцца. Рэдкая назва: гераічная, гістарычная. І тым, хто жыве там, зайздросціш, калі прыходзіш у госці. Сябра школьнага я любіў, не толькі таму што на «Партызанскай» ён жыў, бо сапраўдным ён сябрам быў. І раптам гора. Злая хвароба ўхапіла яго надта ж скора. Жонка плача: асірацелі хата і сад, гармонік-італьянка. Не ўратавала яго, сябра майго, «Партызанка». Больш не цягне мяне на вуліцу гэту. Там і дзетак багата, і кветак багата. Але без сябра майго няма мне там свята. Эх, «Партызанка», давай прыгадаем школу нашу ды разам паплачам, успамінаючы сябра Сашу.

# Балота

**(народная назва квартала ў Давыд-Гарадку)**

Былое балота да вуліцы Чапаева чапляецца. Балота асушылі, каб на ім людзі жылі. Сястра мая Таня бядуе: яшчэ адна хата побач пустуе, плот пакасіўся, дах праваліўся. Няма немаўлят у дзесяці з дваццаці нашых хат. Песень на лаўцы даўно не пяюць. Маладым нецікава гэта забава. Неба крыўдуе — вуліца мала радасці чуе. Сёе-тое яшчэ прадаюць. Цягнуць на ровarax свой тавар на новы базар. Таня збірае там навіну, і не адну: хто ажаніўся, хто ў бальніцы на кропельніцы, хто з кім і за што пасварыўся. Ці былі ўжо заручыны, калі вяселле, ці не ўпадзе цана на насенне. Хварэе ў Тані маці, ходзіць толькі па хаце. Старэе, бо ад гэтай хваробы няма панацэі. Але ж як, дзякуй Богу, святлее з твару, ад навін, што прынеслі з базару. Яна разумее... Сілы ўжо не тыя, але як яна рада, што яе аднагодкі яшчэ жывыя!

# Сцяпанава навука

Сцяпан вучыў суседа Паўліка, як трэба жыць у нашы дні. «Скажу табе, мой дружа малады, за ўсё капейчыну прасі. Каб задарма рабіць — нікай шукаюць дурня. Мінуў той час. За ўздох і выдах нават грошыкі гані! Забіраюць у дружыну, ты змані. Кажы, што хворы, бясплатна не хадзі. Раней мы гнулі спіну за дармаўшчыну. Хапай свой шанц ты за хвост, кладзі ў банк даляры ў рост, скубі працэнты ды будзеш піць, як адна спявае, і ты абсент. І на суботнік не хадзі. Смех адзін. Там не даюць рублі, а сілы аддасі. Мінуў той час, калі нібыта ўсе за нас. Мяне сорам не скубе, бо ведаю, што кожны, як казаў мой сябар Мікола, пад сябе грабе. Калі на дачы просяць дровы пакалоць, кажы, руку мне пазалоць, дык буду я калоць. Ты, Паўлік-маладзён, слухайся мяне, цябе і гора абміне. Я навучу цябе капіталізму і пораху дадам тваіму я аптымізму. Закон такі, запамінай, за ўсё, што робіш, кажы, грошы дай. І будзе ўсё рэальна клёва. Мая навука — твайго жыцця аснова». Быў Спас. Цяпло яшчэ стаяла, і нечакана Сцяпана гора напаткала. Гарэла хата ў Сцяпана. Крычыць Сцяпан:

— Дапамажыце, людзі! Усё згарыць! Памажыце мне пажар тушыць! Сусед мой, Паўлік дарагі, цягні ты шланг, пажар тушы. Адзін змагаюся з агнём, навокал ні душы. Пакуль пажарнікі прыедуць хоць ты тушы.

Стаіць наш Паўлік нерухома. Ён толькі пазяхае.

— Чаго стаіш? Бяры вядро, — Сцяпан суседа папракае. — Тушы агонь.

Не ведае Сцяпан, што Паўлік толькі доларaў чакае. Ён добра занітаваў навуку на Сцяпанавым уроку: без грошай ён цяпер ні кроку, як ты і ні прасі. Вось такая се ля ві.

# Масоны

Чытач, які сочыць за стылем маёй прозы, скажа адразу: «Мы ведаем, з якога ён пачне сказа: "У мястэчка Расоны прыехалі масоны"». Трохі памыліліся. Пачну не так. У вёсцы на Палессі на ўвесь раён жыў адзін масон. Быў Сцяпан-масон у Еўропе на заробках, але ж не надта зарабіў ён у Партугаліі на пробках. Праўда, форсу хапіла. На грудзях яго была татуіроўка вока ў промнях ды цыркуль — знакі масона. І стаў Сцяпан для аднасяльчан закрытай персонай. Кінуліся, хто ўмеў, у інтэрнэт шукаць масонаў сакрэт. Нібыта каб у ложу да сябе далучыць — рытуал такі: чалавечую кроў мусяць піць. Кладуць жанчыну на стол і шпагай робяць укол. І жанчына каб была не кволая, а мажная, і ляжаць на стале будзе голая. Сцяпана зачаравала Яна. І ён спадабаўся дзяўчыне, асабліва, калі вазіў ва ўласнай машыне. Да вяселля рукой падаць. Давай тады маці Яны ды сяброўкі паратунак шукаць. Меліся яны яе адгаварыць, але ж марна... Яна ўся аж гарыць, калі побач са Сцяпанам стаіць. Згулялі вяселле. А ў раніцу забыліся ўсе госці ды сяброўкі пра гулянку. Стаіць ля плота хаты Сцяпана жанчын цэлая рота. Прыйшлі ратаваць Яну ад ранаў. Вачам сваім не вераць. Выходзіць на ганак Яна жывая і песню нават спявае. За ёю выходзіць Сцяпан, соладка так пазяхае і левай рукой жонку сваю абдымае. Просіць Яну маці ад яе нічога не хаваці. Побач міліцыянер, калі што, возьме Сцяпана за каўнер і ў суд, гадоў пяць дадуць. Дзе ўкалоў ды напіўся крыві? Гавары!

— Пра што ты пытаеш, якая кроў? Сядзеў небарака ў кутку і чакаў маіх слоў. Пакуль не пацалаваў маіх ножак, не дазволіла легчы ў ложак.

Сакрэт быў просты — розныя ў іх былі росты. У Яны метр семдзесят пяць. Яна магла рукой у хаце Сцяпана столю дастаць. У Сцяпана рост метр пяцьдзясят пяць. Яму цяжка было і нязручна нават палову Яны абняць. Аднак ужыліся, дзякуй Богу. Жылі, шчыравалі, потым дзетак іх у вёсцы масончыкамі назвалі. У Сцяпана пыталі сябры ў піўной: «Як ты там з маладой?» — «А трасца ёй у бок. Такой няма на ўвесь мір. П'е маю, браткі, кроў, як вампір, усю зімку і ўсё лета масоніха гэта».

# Сцяпан і галубы

Сцяпан галубоў не любіў, халоднае сэрца ў грудзях насіў. Карысці ад іх ніякай, толькі гадзяць паўсюдна. Ён ля пад'езда галодных катоў, вераб'ёў, сарок не карміў. Так і жыў нелюдзімы, адзін, без жанчын. Ён і з жонкаю не ўжыўся, разышліся без сваркі. Ён не пацягнуўся да чаркі. Не цягнула яго і да Бога, да царквы не хадзіў, адно што часта курыў ды пасля працы шафёра піва на кухні піў. Так, сам па сабе, дзеля сябе і жыў. Неяк на ягоны балкон у раненькую часінку голуб прынёс галінку. Галубка прынесла яшчэ адну. Меўся Сцяпан адразу пару прагнаць. Ды нейкая сіла яго ўтрымала, вырашыў паназіраць, што ж будзе далей: выкінуць іх з балкона заўсёды паспее. Ажывіўся на балконе куток, нарадзіўся малы галубок. Ад іх варкутання няма Сцяпану ратавання. Можа, сотню разоў на дні малое кармі ды кармі. Заўтра ж выкіне на вуліцу ўсіх, да родзічаў іх, рашыў Сцяпан, ды нешта парушыла і гэты план. На вуліцы машына адну галубку задушыла. Пазнаў у ёй Сцяпан сваю. Што зробіш, не ўратуеш ужо і не дапаможаш. Сцяпан прынёс на балкон галубку кавалкі батона і яшчэ крупу. Злёгку яго галубок дзеўбануў у руку. Голуб-бацька побач сядзеў і пільна на Сцяпана глядзеў. Хоць батон і быў свежы, ды малеча яшчэ не разумела такую ежу. Карміў яго голуб-бацька і выкарміў. Сусед Сцяпану казаў, што галубы дзяцей не кідаюць, а кормяць да той пары, пакуль ён сам не зможа вольна і смела лятаць па двары. Ад таго часу стаў Сцяпан галубоў прыкмячаць, калі-нікалі і карміць: усё спадзяваўся, што, можа, увесну нехта з іх зноў на балкон да яго прыляціць.

# Рыба Гарыні

Ловіцца рыба і з вечара, і зранку. Шахнеш малака шклянку і бегма ў Мэльнікі да млячарні, там верхаводак, як пчол ля пчалярні. Калі маеш ты муху ды цеста, шукай сабе вольнае места. Цягні верхаводку ды кідай у лодку, нанізвай на нізку, будзе поўная міска. Баба ля печы згорбіла плечы, скора сняданак, дзед у чаканні смакавання. Такі быў мой ранак. «Слава Богу», «Дзякаваць Богу» — так баба казала. Рацэ пакланіся, яе верхаводка колісь ад голаду нас ратавала, так колісь бывала. Цяпер на сняданак ёсць сёмга, фарэль, яшчэ аргенціна і хек, падыходзь да прылаўка, міл чалавек. Цяпер хто з грашыма — той і рыбак. Трохі грошай я маю, нешта купляю, але ж не забыць мне ніколі маёй верхаводкі смак.

# Любімыя гарады

Аднакласнікі з Пінска выпадкова сустрэліся на вакзале ў Мінску. Разважлівы Іван, хітраваты Сцяпан ды жвавы Фядос сядзелі ды прыгадвалі сваю маладосць. Дзе хто з іх быў, куды ездзіў, дзе служыў і які горад найбольш палюбіў. Сцяпан даехаў да Урала.

— За плячыма, — кажа, — дзесяць гарадоў і дзве сталіцы. Хіба ж гэтага вам мала?

Фядоса гэта зачапіла. Бярэ ён слова і лічыць ён на пальцах гарады: Варшава, Рыга, Ялта, Пенза.

— А цягне больш да Магілёва.

Даехаў да Сібіры іх сябар Іван.

— Любімы горад і прыгожы, — кажа, — гэта Абакан.

— Якая прыгажосць у халады, дзівак? — перапыніў яго Сцяпан. — Ёсць лепшае мястэчка пад назваю Судак. Якое сонца, мора, горы — жыві там век, не ведай гора.

Іван прыціх.

— Не падабаецца вам Абакан. Скажу пра нашыя. У Гродне заўсёды можна за грашы апрануцца модна. Ён побач з Беластокам. Тавар туды вязуць патокам.

Фядос-хвалько дадаў сваё:

— Што з вамі зробіш, але праўда язык мне цісне. Калі скажу, што быў я у Найробі, дык сківіца ў вас адвісне.

Можа, гэта і быў падман, але не здаваўся Сцяпан.

— Мне было цёпла і ў Крыму.

Доўга маўчаў Іван. І раптам, зусім нечакана пытае сяброў:

— Я хоць і быў там, але ж не надта і памятаю таго Абакана. Вось што, мае вы сябры, дарагай апантаныя, а ці былі ў вас у тых гарадах каханыя? Ці гулялі з імі ў парку, на беразе ракі, ці ж быў у вас шчаслівы дзень такі? Калі трымаеш руку любімай дзяўчыны і ходзіш па горадзе, ну без усялякай прычыны.

— Хоць мы і ў гадах, але памятаем усе — каханых такіх не было ў тых гарадах, — адказалі і Фядос, і Сцяпан.

— Калі не было каханых, дык горад для вас быў чужы, што ні кажы.

Згадзіліся сябры, выпілі піва і разышліся. Ехаць у новыя гарады ды шукаць каханых было позна.

Іван падаўся да жонкі ў Гомель, Сцяпан — у Жыткавічы да цешчы, а Фядос — да дзяцей у Ліёзна.

# Фота на памяць

Запрасілі землякі да сябе ў госці вядомага пісьменніка, лаўрэата і да таго ж Вярхоўнага Савета дэпутата. Як раз прыпала на прыезд яго і свята. Дзень Перамогі. Для важнасці маменту прывёз з сабой ён адной газеты карэспандэнта. Узяў з сабой чытальніка, які ўрыўкі з твораў пісьменніка чытаў, як мог такім вось чынам ён творчасць земляка свайго і праслаўляў. Хадзілі разам ад школы да завода, ад камбіната бытпаслуг да райваенкамата. Паўсюдна іх вадзілі. Што і казаць. Быў час, была эпоха, пісьменнікаў тады яшчэ любілі. Чытальнік-сябар — няхай не самы блізкі, чытаў натхнёна, з таго, што народны напісаў, пакуль ён не пачуў параду карэспандэнта. Таму пісьменнік, скрывіўшы рот, амаль што загадаў, «каб разам з чытальнікам ён дэпутата не здымаў». Анямеў чытальнік, скамянеў, чытаць ён творы такога сябра болей не хацеў. Пачаў ён разважаць. Чым ён яму не ўпадабаў? Таксама як народны, на вайне ён быў і мужна ваяваў. Не прасіў пуцёвак і кватэру. Не набіваўся ў госці на абед. Чытальнік раптам усё і зразумеў, пачуўшы гэту навіну: на фота хочацца народнаму быць аднаму. Душа чытальніка пратэставала. Ён не застаўся на банкет. Паехаў на вакзал, купіў да Мінска ён білет. Больш творы былога сябра ён ніколі не чытаў, яму ён здрады да дзён сваіх апошніх і не дараваў. Час хутка пралятае. На паліцах бібліятэк спяць пад пылам кніжкі былога пісьменніка і дэпутата, жадаючых чытаць іх штосьці малавата.

# На чужым беразе з родным васільком




**Яшчэ ў далёкім 1923 годзе была заснавана Беларуска-амерыканская нацыянальная асацыяцыя. З таго часу яе прадстаўнікі настойліва прапагандуюць на амерыканскай зямлі веды пра гісторыю, культуру і звычаі свайго народа, бо працягваюць лічыць сябе неаддзельнай ад яго часткай. Пры гэтым беларускія імігранты шырока карыстаюцца сродкамі мастацтва (эстрада, фестывалі, выстаўкі і г. д.), бо добра разумеюць важкасць такой актыўнасці як для сябе асабіста, так і для іншамоўных суседзяў, паколькі перадача сродкамі вобразнай рэчаіснасці пакідае моцнае ўражанне.**

Вось прызнанне аднаго з гледачоў, якому пашчасціла прысутнічаць на Беларускім фестывалі мастацтва: «...Я пабачыў дарагія, ад маленства знаёмыя твары беларусаў і беларусак, лагодныя, ветлівыя аблічы, якія пазнаў калісьці ў ціхіх вёсках пры Нёмане, на вуліцах у Мінску і ў ягоных ваколіцах. Але ваколіцы Мінска — гэта не ваколіцы Нью-Ёрка. І пабачыць сабраных разам тры тысячы землякоў не толькі з Нью-Ёрка і Нью-Джэрсі, а і з усіх Злучаных Штатаў — з Каліфорніі, Чыкага, Дэтройта, з Канады і нават з Аўстраліі, дык хіба ж гэта не цуд?» Для іміграна пачуць роднае слова, родную песню, пабачыць знаёмы танец ці самому ўдзельнічаць у ім, угледзецца ў родныя краявіды на карціне мастака — значыць узняць настрой, адчуць сябе неадрыўнай часткай свайго народа — задаволіць духоўную смагу чалавека, нейкімі абставінамі адарванага ад Айчыны. Папершае, удзел у мастацкай самадзейнасці дапамагае па-ранейшаму адчуваць сябе людзьмі з берагоў Нёмана і Прыпяці, садзейнічае ўзмацненню нацыянальнай салідарнасці. Па-другое, эстрада — дзейсны спосаб распавесці пра Беларусь — дазваляе амерыканцам не блытаць яе з Балгарыяй ці Бангладэш, паўстае для іншамоўнага акружэння найвышэйшай формай камунікацыі ва ўмовах дэмакратычнага ладу, узнімае культуру ўзаемадачыненняў, фарміруе паважлівае і прыязнае стаўленне да незнаёмцаў.

Пра нястомную дзейнасць беларусаў у ЗША распавядае кніга «Беларускія фестывалі і выстаўкі ў Нью-Джэрсі. Палітычная інфармацыя моваю мастацтва (1948 — 2011)», выдадзеная на англійскай і беларускай мовах Беларускім інстытутам навукі і мастацтва (Нью-Ёрк, 2013). Аўтар кнігі — Янка Запруднік — вядомы беларусазнаўца, гісторык, журналіст, аўтар даследаванняў *«Belarus. At Crossroads in History»* (1993) і *«Historical Dictionary of Belarus»* (1998), актыўны ўдзельнік, арганізатар і прапагандыст беларускіх фестываляў і выставак, якія прадстаўляюць прывабны вобраз Бацькаўшчыны.

Кніга прысвечана дзейнасці беларускай дыяспары ў штаце Нью-Джэрсі, а таксама змяшчае водгукі амерыканскага друку і прадстаўнікоў палітычнай эліты краіны. Выбар абумоўлены тым, што ў гэтым штаце беларускае жыццё больш актыўнае. Разам з тым справядліва адзначаецца, што Нью-Джэрсі не выключэнне, бо такую ж культурна-прапагандысцкую дзейнасць праводзілі і праводзяць беларусы ў многіх штатах: Нью-Ёрк, Ілінойс, Мічыган, Каліфорнія ды інш. Дзякуючы гэтаму беларускімі справамі цікавіліся прэзідэнты Рычард Ніксан, Джэральд Форд, Джымі Картэр, Джордж Буш-старэйшы ды іншыя, якія выказвалі ўдзячнасць «за высокі ўнёсак амерыканцаў беларускага паходжання ў наш уклад жыцця».

Кніга насычана візуальна-фатаграфічнымі дакументамі, якія наглядна адлюстроўваюць дзейнасць беларускіх мастацкіх калектываў, хароў, танцавальных гуртоў, чытальнікаў-дэкламатараў, выступленні якіх адбываліся ў школах, ва ўніверсітэтах, на адкрытых пляцоўках, пры правядзенні ўрачыстасцей, прысвечаных гістарычным амерыканскім і беларускім падзеям, на кірмашах, у міжнародных канцэртах, а таксама падчас выстаў мастацкіх работ і вырабаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, паказаў беларускага нацыянальнага адзення, знаёмства з беларускімі традыцыямі (Каляды, вяселле)... Мерапрыемствы па папулярызацыі Беларусі шматлікія і разнастайныя. Як вядома, здымкі — доказныя сляды кволай людской памяці — дапамагаюць узнаўляць тое, што адбывалася на самай справе, — пашыраюць інфармацыю пра жыццё беларускай грамады ў Амерыцы. Невыпадкова кніга ўспрымаецца яшчэ і як своеасаблівы альбом.

Пры напісанні кнігі Янка Запруднік карыстаўся як уласнымі ўражаннямі, так і архіўнымі матэрыяламі, публікацыямі беларускіх выданняў у ЗША, успамінамі ўдзельнікаў падзей — Вітаўта Кіпеля, Ірэны і Міколы Дутко, Лізы Літаровіч, Валянціны Трыгубовіч і інш.

Грамадскія з'явы і факты з гісторыі беларускай дыяспары, якія апісвае і дакументуе Янка Запруднік, яскрава сведчаць пра нацыянальную салідарнасць і духоўную сувязь беларускіх амерыканцаў з краінай свайго паходжання, яе культурнай спадчынай, выяўляюць глыбокую ўпэўненасць у неабходнасці пашырэння інфармацыі пра Беларусь.

На старонках кнігі згадваюцца сотні імёнаў шчырых энтузіястаў-прапагандыстаў беларускасці, якія, у дадатак да сваіх сталых заняткаў, да таго ж і самаахвярнымі ўзносамі са сціплых сямейных бюджэтаў спрыяюць ажыццяўленню беларускіх культурных мерапрыемстваў. Такім чынам аўтар аддае належнае любові і адданасці да сваёй Радзімы, якімі прасякнуты сэрцы яе былых жыхароў. Ды і сама кніга, прысвечаная натхнёнай працы беларускіх імігрантаў па пашырэнні ў амерыканскім грамадстве дакладных звестак пра Беларусь, доказна падкрэслівае эфектыўнасць перадачы інфармацыі разнастайнымі сродкамі народнага мастацтва, праз зварот да палітычных ідэй і фактаў з гісторыі Беларусі, дэманструе на прыкладах беларускіх фестываляў і выставак, як амерыканскі лад жыцця дазваляе кожнай этнічнай групе захоўваць і памнажаць культурную спадчыну, што спрыяе мірнаму суіснаванню прадстаўнікоў розных народаў, павышэнню агульнай культуры грамадства. Кніга абавязана сваім з'яўленнем не толькі аўтару, але і ахвяраванням каля ста амерыканскіх беларусаў, прыхільнікаў роднай культуры.

Матэрыял выдання пацвярджае, што культурна-інфармацыйная дзейнасць — сувязь праз народнае мастацтва ўсіх пакаленняў народа. Кніга дэманструе гістарычнае адзінства беларусаў, жыццядзейнасць нацыянальнага духу, што сведчыць пра вялікую любоў да Беларусі.

Невыпадкова аўтар уступнага артыкула, вядомы дзеяч беларускай дыяспары ў ЗША Вітаўт Кіпель, падкрэслівае: «Альбом гэты — выдатны даведнік як для амерыканскіх публічных бібліятэк, гэтак і для сямейных збораў-архіваў, дзе маладзейшыя змогуць убачыць, прыгадаць татаў-мам, а часам і дзядоў-бабак, калі тыя спявалі, танцавалі на сцэнах тэатраў, у каледжах, парках, на фестывалях, ушаноўваючы і амерыканскую культуру, і беларускую, пры гэтым шчодра пашыраючы інфармацыю пра Беларусь».

Аўтар уступнага артыкула таксама лічыць, што кніга будзе стымулам да пашырэння беларускай культурнай дзейнасці ў Злучаных Штатах. З гэтай думкай можна цалкам пагадзіцца, бо сярод эмігрантаў з Беларусі ў апошнія два-тры дзесяцігоддзі нямала мастакоў, музыкантаў, спевакоў, тэатральных артыстаў, патэнцыяльных арганізатараў — людзей з адказным стаўленнем да краіны, з якой паходзіць іх род. Пра гэта, напрыклад, можна меркаваць па мастацкіх выстаўках, якія рэгулярна ладзяцца ў Чыкага і вабяць шматлікіх гледачоў, ды іншыя цікавыя беларускія мерапрыемствы, якія асвятляюцца ў друку.

> *Кніга прысвечана дзейнасці беларускай дыяспары ў штаце Нью-Джэрсі, таксама змяшчае водгукі амерыканскага друку і прадстаўнікоў палітычнай эліты краіны. Выбар абумоўлены тым, што ў гэтым штаце беларускае жыццё больш актыўнае. Разам з тым справядліва адзначаецца, што Нью-Джэрсі не выключэнне, бо такую ж культурна-прапагандысцкую дзейнасць праводзілі і праводзяць беларусы ў многіх штатах…*

Народнае мастацтва адлюстроўвае інтэлект народа, яго добразычлівую калектыўную душу, эстэтыку і светаўспрыманне. Таму Янка Запруднік мае рацыю, мяркуючы, што мастацка-эстрадная дзейнасць беларускіх эмігрантаў у ЗША мае пэўны ўплыў на разуменне амерыканскімі палітыкамі жадання беларускай нацыі мець незалежную дзяржаву.

Завяршае кнігу Янкі Запрудніка прадстаўнічы спіс выданняў, з якіх можна даведацца пра жыццё беларускіх эмігрантаў у ЗША, пра іх уклад у эканамічную, палітычную і культурную галіны новай для сябе краіны, пра натхнёную працу па ўслаўленні роднага краю перад прадстаўнікамі іншых этнасаў.

Па дакладным вызначэнні В. Кіпеля, кніга Янкі Запрудніка «Беларускія фестывалі і выстаўкі ў Нью-Джэрсі. Палітычная інфармацыя моваю мастацтва (1948 — 2011)» — «найлепшы помнік, які можна было стварыць сотням харыстаў, танцораў, народных умельцаў ды арганізатараў фестываляў і выставак — пашыральнікам у Амерыцы ведаў пра Беларусь».

Перагортваеш апошнія старонкі кнігі з адчуваннем, якое трапна вызначыў Алесь Бачыла: «Нідзе сваё роднае, прывычнае блізка гэтак не кранае і не расчульвае, як у далечыні ад радзімы».

**Цімафей ЛІЯКУМОВІЧ**

*Не абмініце*

## Пра ваду — займальна

**Новай кнігай «Цёплыя назвы Яе Вялікасці Вады» (Выдавецкі дом «Звязда», 2016) парадаваў юных чытачоў пісьменнік Алесь Карлюкевіч. Зборнік, адрасаваны дзецям сярэдняга школьнага ўзросту, склалі нарысы і казкі.**




Адметнасць выдання ў тым, што пісьменнік у сваіх творах умела спалучае навуковыя веды і сваё мастацкае светабачанне. Галоўны тэматычны кірунак кнігі — усё пра ваду і тое, што з ёю звязана. Юныя чытачы даведаюцца пра беларускія рэкі, азёры ды іншыя водныя аб'екты. А яшчэ лепш будзе, калі дзеці, чытаючы гэтую вельмі цікавую кніжку, з дапамогай настаўнікаў або бацькоў адшукаюць на карце Беларусі тыя водныя аб'екты, пра якія прыгожа і даступна распавядае пісьменнік.

Каштоўнасць новай кнігі Алеся Карлюкевіча яшчэ і ў тым, што нескладаны тэарэтычны матэрыял падмацаваны казкамі на адпаведную тэматыку. А казкі гэтага аўтара, як заўсёды, прываблiваюць цікавым сюжэтам, захапляюць, абуджаюць пачуцці дабрыні, міласэрнасці, любові да роднай прыроды і яе насельнікаў. Творы, змешчаныя ў кнізе, і вучаць, і забаўляюць.

**Міхась СЛІВА**

На суісканне Дзяржаўнай прэміі Беларусі

# Знаўца талентаў айчынных

## У чым наватарства Барыса Крэпака?

**Мабыць, не толькі я сваё знаёмства з чарговым нумарам штодыднёвіка «Культура» заўжды пачынаю чытаннем артыкулаў Барыса Крэпака. У кожным з іх не проста прафесійны погляд на тую ці іншую падзею выяўленчага мастацтва, але і менавіта асацыятыўнае абагульненне, якое ўласціва толькі вельмі дасведчанаму таленту. Факт (а гэта адкрыццё персанальнай або калектыўнай выстаўкі, юбілейная дата мастака) робіцца падставай для грунтоўных разваг пра самую сутнасць мастацтва і таго ці іншага творчага лёсу.**



*Барыс Крэпак.*

Дыяпазон такога асэнсавання самы разнастайны. Тут і праблемы мастацкага жыцця краіны ва ўсіх відавочных і затоеных абставінах, асабісты і дзяржаўны погляд на іх. Тут і глыбінна навуковае, эстэтычнае выяўленне традыцый, наватарскіх праяў у станковым і манументальным жывапісе, а таксама ў скульптуры, кніжнай графіцы, дэкаратыўна-прыкладной творчасці. Гэта і шматлікія манаграфічныя публікацыі…

Нельга не заўважыць трывалую прыхільнасць Барыса Аляксеевіча да гісторыі Віцебскай мастацкай школы, да творчасці амаль забытых мастакоў, якія жылі ў 30 — 60-х гадах мінулага стагоддзя. Захоплена аналізуе ён і паспяховае з'яўленне беларускага выяўленчага мастацтва ў міжнароднай духоўнай прасторы.

Усё гэта вельмі проста пацвердзіць не толькі шматлікімі публікацыямі ў прыгаданым штотыднёвіку, членам рэдкалегіі якога і загадчыкам аддзела Барыс Крэпак з'яўляецца на працягу 22 гадоў, але і кнігамі, манаграфіямі, мастацкімі альбомамі, каталогамі, з якіх можна скласці своеасаблівую аўтарскую бібліятэку надзвычай руплівага мастацтвазнаўцы.

Немагчыма пералічыць і падлічыць усе артыкулы, рэцэнзіі, эсэ, надрукаваныя ім не толькі ў Беларусі, але і ў краінах далёкага і блізкага замежжа. Асобныя кнігі прысвяціў ён народным мастакам Беларусі Л. Шчамялёву, В. Цвірку, А. Бембелю, А. Анікейчыку, А. Кішчанку, М. Савіцкаму, У. Тоўсціку. Не абышоў кніжнай увагай мастакоў Брэсцкай, Магілёўскай, Віцебскай абласцей. Дзякуючы і яго творчым намаганням з'явіліся кнігі «Свет Высоцкага» (Масква), «Уладзімір Мулявін. Нота лёсу», «Яўген Чамадураў. Маё дваццатае стагоддзе», «Злучае нас часінаў ніць. Мемарыял "Брэсцкая крэпасць"», «Мастакі Брэстчыны».

> *У многім дзякуючы намаганням Барыса Крэпака вярнуліся на радзіму, каб стаць яе гонарам, Кандрат Карсавін, Рудольф Жукоўскі, Міхаіл Башылаў, Міхаіл Мікешын, Леў Бакст, Сяргей Заранка, Дзмітрый Стэлецкі, Януарый Сухадольскі, Марк Ротка, Лазар Сегал…*

Пералік можна і трэба доўжыць, бо як не прыгадаць, што толькі за апошнія гады пабачылі свет яскрава пазначаныя яго мастацтвазнаўчым талентам кнігі і альбомы: «Алена Аладава. Музей — яе лёс», «Васіль Ціханенка», «Міхаіл Канькоў», «Уладзімір Тоўсцік. Ладдзя лёсу», «Міхаіл Савіцкі. Пластычныя вобразы эпохі», «Час і прастора Леаніда Шчамялёва», «Уладзімір Шпартаў». А колькі паэтычнай сутнасці і дасведчанасці ў артыкуле «Парыж — прыстанак прыгожай і вольнай прастаты»! Змешчаны ён у каталогах «Мастакі Парыжскай школы з Беларусі» і «Дзесяць стагоддзяў мастацтва Беларусі». Упэўнены, што кожны, хто больш-менш цікавіцца выяўленчым мастацтвам нашай краіны, не мог не пазнаёміцца з грунтоўным артыкулам Барыса Крэпака «Выкладчыкі і выпускнікі Віцебскага мастацкага тэхнікума (1923 — 1941)».

І гэта далёка не поўны пералік зробленага ім за больш чым сорак гадоў натхнёнай, ды што там! — апантанай творчай працы. Аднак у маім успрыманні Барыс Аляксеевіч — перш за ўсё збіральнік беларускіх талентаў. На працягу амаль чатырох гадоў з нецярпеннем чакалі мы ці не ў кожным нумары штотыднёвіка



*Злева направа: Аляксандр Кішчанка, Уладзімір Караткевіч, Ангеліна Бельцюкова, Гаўрыіл Вашчанка і Барыс Крэпак. Мінскі Палац мастацтва. 1984 г.*



*У майстэрні Леаніда Шчамялёва. 2004 г.*

«Культура» яго чарговай публікацыі пад інтрыгуючай рубрыкай «Вяртанне імёнаў». Ён адзін зрабіў тое, што падуладна толькі калектыву прафесійных даследчыкаў выяўленчага мастацтва.

Каля 80 біяграфій-эсэ абгрунтавана засведчылі, якога суквецця талентаў да апошняга часу пазбаўляла сябе Беларусь. Ва ўсёй трагічнай ці шчаслівай лёсавай прыгажосці паўсталі перад намі не толькі вядомыя мастакі-беларусы, але і тыя, што нарадзіліся на нашай зямлі, ды па розных жыццёвых акалічнасцях пакінулі яе і здабылі славу далёка ад Радзімы.

Дзякуючы выдавецтву «Мастацкая літаратура» гэтыя публікацыі знайшлі ўвасабленне ў двухтомным выданні. У першым — творчыя партрэты 47 мастакоў, сярод якіх Іосіф Аляшкевіч, Ян Дамель, Казімір Ельскі, Валенцій Ванькові̇ч, Марк Шагал, Эль Лісіцкі, Канстанцін Гедай, Восіп Цадкін… У другім — 31 імя. Сярод іх — Юліян Фалат, Савелій Сорын, Хаім Суцін, Уладзіслаў Стржэмінскі, Аляксандр Грубэ, Міхась Філіповіч, Раман Семашкевіч, Пётра Сергіевіч, Георгій Ніскі, Надзея Хадасевіч-Лежэ, Мікалай Пашкевіч, Язэп Майсеенка, які, дарэчы, яшчэ і цяпер, як Георгій Ніскі, лічыцца рускім. А ўраджэнец Віцебска Марк Шагал — грамадзянінам свету.

У многім дзякуючы намаганням Барыса Крэпака вярнуліся на радзіму, каб стаць яе гонарам, Кандрат Карсавін, Рудольф Жукоўскі, Міхаіл Башылаў, Міхаіл Мікешын, Леў Бакст, Сяргей Заранка, Дзмітрый Стэлецкі, Януарый Сухадольскі, Марк Ротка, Лазар Сегал… Дадам толькі, што ўсё напісанае гэтым мастацтвазнаўцам прываблівае стылёвай узнёсласцю, паэтычным адчуваннем мастацтва. У мяне былі ўсе падставы назваць сваю рэцэнзію, надрукаваную ў расійскай «Литературной газете» на кнігу Барыса Крэпака пра Леаніда Шчамялёва так: «Паэзіяй слова — аб паэзіі жывапісу».

> *Ва ўсёй трагічнай ці шчаслівай лёсавай прыгажосці паўсталі перад намі не толькі вядомыя мастакі-беларусы, але і тыя, што нарадзіліся на нашай зямлі, ды па розных жыццёвых акалічнасцях пакінулі яе і здабылі славу далёка ад Радзімы. Дзякуючы выдавецтву «Мастацкая літаратура» гэтыя публікацыі знайшлі ўвасабленне ў двухтомным выданні.*

Карыстаючыся фундаментальным энцыклапедычнага кшталту даведнікам «Беларускі саюз мастакоў. 1938 — 1998», мы часам забываем, што галоўным рэдактарам яго быў Барыс Аляксеевіч Крэпак, які пасля заканчэння Ленінградскага дзяржаўнага ўніверсітэта працаваў у Мастацкім музеі БССР загадчыкам творчых секцый і камісій, сакратаром праўлення і членам Прэзідыума Саюза мастакоў. Сёння Барыс Крэпак — заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, двойчы лаўрэат прэміі «За духоўнае адраджэнне», лаўрэат прэмій Федэрацыі прафсаюзаў і Беларускага саюза журналістаў, мае шматлікія граматы і дыпломы. Ён вельмі натуральна і заслужана наблізіўся да таго, каб стаць лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Беларусі.

Ізяслаў КАТЛЯРОЎ



# Філасофія народнага,

## альбо Тонкасці фотапластыкі

**Душа лечыцца адчуваннямі — асабліва ад энергетычна магутных мясцін. Толькі што бег міма, па сваіх справах, — і раптам спыніўся. Тое самае адбываецца насупраць фотапластычных работ Валерыя Вядрэнкі, яго здымкаў. Ты пераадольваеш плоскасць уверх, уніз, у глыбіню, трапляючы ў новыя светы. Ніякага пафасу: гэта сапраўды так. Яго карціны ўжо не ўмяшчающца ў стандартныя межы палатна, ім цесна, яны нагадваюць фільмы. Майстар умее звязваць мінулае і будучыню, збіраць у адным месцы розныя прасторы, далёкія вобразы і часы. Беларускі фатограф і мастак распавёў пра тое, як ствараць непаўторнае, амаль магічнае мастацтва з дапамогай толькі ўважлівасці ды новых тэхналогій і навошта кідаць выклікі самому сабе ўсё жыццё.**

### ЭТНАГРАФІЯ, ХРОНІКА ПАЛЕССЯ І ПЕРШЫЯ КРОКІ

«У юнацтве ў мяне была закладзена база, што нязменна буду цікавіцца гісторыяй, Беларуссю, архітэктурай, народным мастацтвам у філасофскім аспекце, каб уяўляць сабе, ад чаго і куды мы рухаемся, якія ў нас перспектывы, што мы страцілі і што маем», — сцвярджае Валерый Вядрэнка.

Адразу пасля арміі Валерый Вядрэнка пайшоў працаваць у групу па стварэнні Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту пад адкрытым небам, які цяпер, на жаль, так і не давезены да розуму, а мог жа стаць цэнтрам гісторыі нашай культуры, яе вытокаў. Фатограф з калегамі актыўна ездзіў у экспедыцыі па Палессі, збіраў «артэфакты», датычныя малых архітэктурных формаў, паколькі быў архітэктарам па адукацыі. А потым паўстала лагічнае пытанне: як захоўваць уражанні?

Фатаграфіяй захапляўся з дзяцінства, а потым гэта стала часткай працы. За восем гадоў палескі архіў сабраўся прыстойны. На жаль, у аўтара захавалася толькі 50 здымкаў, астатнія, перададзеныя музею, «сплылі» разам з кіраўніцтвам, што пастаянна мянялася. Плануе зноў зрабіць выстаўку «Палескага альбома», але гэтым разам — у музейных сценах, а не ў фотаклубе, як раней.

Праз восем гадоў працы ў музеі Валерый Вядрэнка махнуў рукой на інтрыгі ды бюракратыю і сышоў у адзін з дамоў культуры весці гурток. Марыў здымаць кіно, нават завочна скончыў у Маскве Інстытут культуры. Але «Беларусьфільм» тады прастойваў, а на тэлебачанні была неспакойная атмасфера. Тым не менш адзін з фільмаў майстра, створаны разам з сябрам Аляксандрам Азончыкам, атрымаў сярэбраны медаль на адным з прэстыжных міжнародных фестываляў, у 1986 годзе ў Таліне. Манціравалі і падкладвалі музычныя дарожкі інтуітыўна. У 80-я гады на савецкай тэхніцы сінхранізаваць гук і выяву было складана.

Валерый Вядрэнка тады зразумеў, што гэта толькі пераходны перыяд...

«Сёння кіно можна здымаць на тэлефон, а гадоў сорак таму гэта было неспасціжна. Пра «лічбу» ніхто і не марыў. Тым не менш мы зрабілі фільм «Патрыярх», які актуальны і сёння — пра патомнага ганчара з Пружан Антона Такарэўскага. Ён рабіў шыкоўную кераміку, чорную, задымленую, але такую вытанчаную», — распавядае Валерый Вядрэнка.

Перабудова зруйнавала ўсе мары. Жыццё распалася на дзве часткі. Кінематографам заняцца так і не давялося, а цікавасць да народнай творчасці, этнаграфіі засталася. Як і да ладу жыцця людзей. У 1990-я думалі пра тое, як выжыць. Было не да мастацтва. У райцэнтрах Валерый Вядрэнка як архітэктар рабіў музеі — ад стварэння праектаў да іх завяршэння. Але гэта было не тым, да чаго ён ішоў...

### ФОТАПЛАСТЫКА, АЛЬБО КАРЦІНЫ НІБЫ КІНО

Валерый Вядрэнка мог стаць і мастаком, сябраваў з мінскімі жывапісцамі. Але яму складана было знайсці сябе — усё, чым бы ні займаўся, не задавальняла цалкам. Магчымасці плёначнай фатаграфіі, гэтак жа як і аматарскіх кінапрыбораў, яму не падабаліся. Ідэі былі занадта складаныя для ўвасаблення пры наяўных тэхнічных магчымасцях. Даводзілася чакаць гадоў дзесяць, каб з'явілася лічбавая фатаграфія і праграмы для яе апрацоўкі, такія, як фоташоп.

«Калі з'явілася магчымасць займацца фотамантажом, які пасля я назваў фотапластыкай, усё астатняе адпала. Пакуты творчасці сышлі. Я стаў змяшчаць тое, што хацеў, у адным кадры. З розных месцаў і часоў збіраў у адной плоскасці свае вобразы, злучаў партрэт, нацюрморт і пейзаж на адным палатне».

Фоташоп Валерый Вядрэнка вывучаў метадам проб і памылак, самастойна. Ён упэўнены, што гэтая праграма, вельмі тонкая і пераканаўчая ў сваёй функцыянальнасці, створана для мастакоў, а не для тых, хто проста падцягвае фігуры і прыбірае з твару маршчыны. Лічбавы фармат, паводле яго слоў, нараджае новыя перспектывы для мастацтва, дазваляе бясконца дарабляць стары матэрыял, дадаваць да яго нешта новае, вяртацца і ўдасканальваць ужо знятае.

Але ў планах — пайсці яшчэ далей. Яго прыцягнуў фармат мультымедыйных карцін, падобна тым, што паказвалі ў выставачнай прасторы ЦЭХ, калі прывозілі Ван Гога. «У маёй фотапластыцы ёсць патэнцыял руху. Яна не змяшчаецца ў раме пад шкельцам, яна патрабуе музыкі, інтэрактыва, кружэння. Глядач павінен быць паглыблены ў мастацтва, захоплены з ног да галавы. Толькі тады я змагу ў поўнай меры паказаць таго ж Антоніа Гаўдзі, бо грандыёзную архітэктуру, якая працуе толькі на паветры і ў прасторы, немагчыма змясціць у двухмерны фармат», — лічыць мастак.

### ГЕРВЯЦКАЯ СІМФОНІЯ

На адным з турыстычных сайтаў сёння невялікую вёску Гервяты ў Астравецкім раёне Гродзенскай вобласці называюць маленькай Швейцарыяй — з-за велічнага гатычнага касцёла Святой Тройцы, які 10 гадоў таму прыцягнуў увагу Валерыя Вядрэнкі. Раблася збудаванне віленскім дойлідам Вацлавам Міхневічам на пачатку XX стагоддзя.

«Мне вельмі блізкая архітэктура, я яе разумею. Пасля таго, як зрабіў пластычныя серыі карцін па Празе, Кракаве, Любліне, стаў шукаць новыя тэмы. І наткнуўся на месца з дванаццацю скульптурамі апосталаў і анёлаў. Для Беларусі такая колькасць — вялікая рэдкасць. Калі прыехаў здымаць (справа была ў сакавіку), з прыродай адбывалася нешта містычнае: выбуховае пякучае сонца рэзка змянялася віхурай велізарных снежных шматкоў! Сапраўдная прыродная сімфонія! Я ехаў фатаграфаваць скульптуры, а там — шыкоўны, эфектны касцёл, абсалютна еўрапейскі, ды яшчэ ў старой вёсачцы. Чароўная атмасфера!» — дзеліцца фатограф.

Ён праздымаў тады чатыры гадзіны, знайшоў усё, што шукаў, і зрабіў выстаўку «Апосталы Гервят» у Мінску, у Чырвоным касцёле. Потым падарыў свае работы касцёлу ў Гервятах. Валерый Вядрэнка упэўнены: такія месцы, як Гервяты, каштоўныя тым, што не хлусяць, сумленна захоўваюць памяць, распавядаюць пра тое, што рэальна было тысячу гадоў таму. Гэта не горад, шумны і бурлівы. Менавіта ў беларускіх мястэчках, у глыбіні краіны, адчуваецца народны дух. Не каларыт нават, а менавіта дух. Мінулае становіцца рэальным, блізкім, ты можаш да яго мімаволі дакрануцца, адчуваеш яго энергетыку ў паветры.

### БАРСЕЛОНСКАЯ НЕСПАСЦІЖНАСЦЬ

Адно з самых вялікіх уражанняў яго жыцця — тварэнні геніяльнага іспанскага архітэктара Антоніа Гаўдзі, большасць праектаў якога ўпрыгожвае Барселону. Але прыцягваюць Валерыя Вядрэнку не хаты, палацы і сядзібы, а касцёлы, храмы. Сам Гаўдзі быў вельмі рэлігійны. Дзякуючы яго святым пабудовам верыш, што ёсць сіла, вышэйшая, боская, таму што аднаму чалавеку задумаць і ўзвесці такія збудаванні амаль нерэальна.



*Серыя «Паклон Гаўдзі». Фотапластыка.*

Валерый Вядрэнка ўспамінае адно з самых маштабных збудаванняў іспанца, убачанае на свае вочы, — Адкупленчы храм Святой Сям'і, называючы яго Саграда (ад каталонскага *Temple Expiatori de la Sagrada Família*).

«Што можа адзін чалавек, якому ёсць пра што сказаць свету? Усё! Гаўдзі — кераміст, архітэктар, скульптар, мазаічнік, універсальны мастак. Скаланае аб'ём працы, які ён зрабіў за адно жыццё. Яго сабор пастаянна будуецца, ён жыве ў ім. Я б хацеў, каб будаўніцтва не заканчвалася, у гэтым пастаянным руху прываблівае. Апошняя кропка нешта адбярэ...» — адзначыў Валерый Вядрэнка.

Яго выстаўка «Паклон Гаўдзі», якая прайшла ў сталіцы вясной, па словах майстра, хоць і паказала, але не перадала да канца ўсю каласальнасць і неспасціжнасць вялікага архітэктара і яго тварэнняў. Тут патрэбны іншы фармат.

У наступным годзе фатограф плануе паказаць нам свой «Лошыцкі сшытак», таксама фотапластыку, фотаграфіку і фатаграфію ў адным, распавесці пра апошнія дні старажытнай Лошыцкай сядзібы і яе наваколля, месца, якое ператварылася... у адрэстаўраваны музей, які многае страціў у душэўным плане. Чатыры гады ён працаваў над гэтымі здымкамі. Вось тут зварот да мультымедыя якраз не патрэбны. Усё павінна быць гарманічна, ва ўсім ёсць свая мера, дарэчнасць. Нельга ўціскаць новыя тэхналогіі ўсюды.

### ЯПОНСКАЯ ФІЛАСОФІЯ ВЯЗЫНКІ

Месца зусім іншае, але таксама чароўнае. Там — дача Валерыя Вядрэнкі, дзе ён цяпер праводзіць шмат часу. Ніякіх садоў і агародаў: дамок, пару градак, а вакол — сажалка, поле, векавыя дубы і старадаўняе гарадзішча…

«Калі толькі заехалі, пайшоў здымаць. Зрабіўшы пяць кадраў, падумаў: Божа, ды я ўсё сфатаграфаваў тут! А на справе выйшла, што назбіралася на тры выстаўкі і ўжо ёсць матэрыял для чацвёртай. Трэба проста ўмець фіксаваць стан наваколля — і гэта далёка не заўсёды прыгожыя, эфектныя карцінкі. Прырода значна глыбейшая і заслугоўвае большай цікавасці, чым толькі дзеля ўдалага ракурса», — кажа Валерый Вядрэнка.

«Калі ад пэўнага сантыметра вады, які цябе прыцягнуў, зыходзіць энергія, трэба зафіксаваць яе. Ёсць дзве галоўныя рэчы для фатографа: увага, а таксама памяць, зрокавая і пачуццёвая. Чаму ішоў і раптам спыніўся? Два метры таму гэтага не было, пяццю секундамі раней — таксама. Што прыцягнула? Усломіниць гэты стан і зафіксаваць яго — вось дзе майстэрства! Але гэта яшчэ не ўсё. Самая цікавая праца адбываецца за камп'ютарам, пры апрацоўцы. Таму для мяне не важна, фатаграфую я прафесійнай камерай ці мыльніцай. Фатаграфія — гэта сыравіна, малюнак, паўфабрыкат. Лічба не дае гатовага выніку, карціна з'яўляецца толькі падчас працы ў праграме, калі ты падключаеш успаміны да кожнага кадра, думаючы пра тое, якія ў гэтым моманце былі колеры, робіш яго як быццам знoўку», — упэўнены Валерый Вядрэнка.

Цікава, але, па яго словах, у прыродзе шмат жаночага. Яна можа схапіць, закрануць, паказаць самае цікавае, а потым раз — і схавацца, чакаць, вывучаць, сачыць, правяраючы, верны ты ці не. Ён даўно ўжо здымае ў Вязынцы, здавалася б, адны і тыя ж месцы, але так па-рознаму. У кожную параўну года. Нічога экзатычнага — святло і цені ў галінах дрэў, адлюстраванні аблокаў у вадзе, камяні і травінкі. Але ў гэтых простых вобразах можна знайсці акіяны і цэлыя планеты. Яго не цікавіць кампазіцыйна выверany пейзаж. Важныя нюансы, тонкасці, адценні. Адчуваецца падыход, блізкі японскай філасофіі: сузіранне звычайнага і пошук у ім сэнсаў.

**Марыя ВОЙЦІК**

# «Чырвоны певень» замест «птушкі шчасця»

## Лакальная катастрофа сусветнага маштабу паводле Стрындберга



*Сцэна са спектакля «Пелікан».*

Над тым, як драма асобна ўзятай сям'і можа ператварыцца ў глабальную трагедыю, прапанавалі паразважаць у Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі. Прэм'ера спектакля «Пелікан», што адбылася напрыканцы сезона, звярнула да тэмы, якая будзе актуальнай да тых часоў, пакуль захоўваецца ўяўленне пра сям'ю, дзе ёсць мама з татам і ў іх нараджаюцца дзеці. Але паводле гэтай пастаноўкі якраз ёсць нагода гаварыць пра тое, што прыводзіць да разбурэння сям'і і не толькі.

Гераіня п'есы «Пелікан» Аўгуста Стрындберга нават не сумняваецца, што яна добрая маці. Яна параўноўвае сябе з цудоўнай птушкай, якая з'яўляецца сімвалам мацярынскай самаадданасці: калі няма чым карміць птушанят, пелікан сілкуе іх уласнай крывёю. Гераіні прыемна думаць пра сябе менавіта як пра добрую маці, якая любіць сваіх дзяцей. Вось толькі дзеці ў гэтым не ўпэўнены. Сумневы падмацоўвае ліст нябожчыка таты, паводле допісу паўстае зусім іншая істота: падманшчыца і распусніца, эгаістка, якая не дбае пра заўтрашні дзень і не клапоціцца пра дабрабыт сваіх дзяцей. Сын і дачка разумеюць, што Маці калі каго і любіць, дык толькі сябе і свае задавальненні, самае галоўнае з якіх — быць у абдымках маладога каханка. Маці аддала за яго дачку, але мела на ўвазе зусім не яе шчасце, а сваю жарсць: імкнулася зрабіць так, каб зяць быў увесь час як мага бліжэй, а лепей наогул жыў пад адным дахам на законных падставах і ў любы момант задавальняў яе. Гэта яго яна гатовая ўтрымліваць і сілкаваць, а не сваіх птушанят. Што адбываецца з імі, гэтую маці не вельмі хвалюе.

Менавіта тое, што адбываецца з імі, — самае галоўнае ў спектаклі, які паставіў рэжысёр Аляксандр Гарцуеў. Яму заўсёды ўдаваліся пастаноўкі, дзе ёсць магчымасць паглыбіцца ў псіхалогію персанажаў, пакапацца ў прыродзе стасункаў людзей, аб'яднаных блізкімі сувязямі, пашукаць прычыны, чаму ў іх не ўсё ладзіцца. І вось рэжысёр знайшоў п'есу, ці яна знайшла яго.

Гэтыя пытанні на пачатку ХХ стагоддзя вельмі хвалявалі шведскага драматурга Аўгуста Стрындберга. Ён марыў пра камерны тэатр, дзе хацеў казаць пра тое, што непакоіла найперш яго самога: стасункі паміж мужчынамі і жанчынамі, стасункі ў сям'і. Пісьменнік і драматург глыбока перажываў асабістыя драмы, звязаныя з распадам сем'яў (але ўспрымаў іх, відаць, як катастрофы), а напісанне п'ес было своеасаблівай псіхатэрапіяй, магчымасцю зазірнуць у сябе, прааналізаваць нейкія моманты ці пазбавіцца ад успамінаў. З карысцю не толькі для сябе: гэта можа даць адказы на нейкія пытанні іншым. Камерныя п'есы Стрындберга, дзе было няшмат персанажаў, з высокай канцэнтрацыяй драматычных падзей і напалам эмоцый, звярталіся да чалавечага пачатку і даследавалі прыроду ўчынкаў, якія перашкаджаюць нармальнаму жыццю. Драматург паглыбляўся ў псіхалогію герояў, выводзіў мараль, без якой немагчыма існаванне людзей. Яго камерныя п'есы былі запатрабаваныя ў «Інтымным тэатры», які існаваў у Стакгольме. У 1907 годзе там быў пастаўлены «Пелікан», адна з тых п'ес, у якіх драматург паказваў абсалютна непрывабныя жаночыя вобразы (у жанчынах бачыў першапрычыну многіх праблем).

Нібыта ўсё зло гэтага свету знайшло прытулак у душы эгаістычнай, хлусівай і амаральнай Маці, дзецям якой наканаваныя голад і холад. Але мы гэта разумеем на фоне прыгожага сімвала птушкі. У спектаклі Маці спрабуе ўпісацца ў вобраз Пелікана нават літаральна. Актрыса Людміла Сідаркевіч, эфектная і вытанчаная, пасярод сцэны размахвае белымі крыламі, напачатку здаецца, што хоча ахапіць усё навокал сваёй шчырай душой. Паступова прыходзіць разуменне, што гэта не душа лунае, а такую ілюзію стварае абрыс (ці, у дадзеным выпадку, шкілет, каркас), падобны да птушкі. Каркас пусты і бяздушны.

Сімвал, закладзены Стрындбергам, у беларускай пастаноўцы стаў не проста метафарай, а асноўнай часткай сцэнаграфічнай канструкцыі, фактычна адзінай, але даволі эфектнай і эфектыўнай (мастак-сцэнограф Юрый Саламонаў). Крылы, нібы ветразі, то высока ўзносяць мары Маці пра каханне і шчасце, то здаюцца цяжкімі і непад'ёмнымі, таму што не можа лётаць той, хто скаваны цяжкімі кайданамі грахоў і плоцкіх жарсцяў. У вонкавым вобразе спектакля, дзе няма дакладнага абазначэння часу ці краіны, усё ўмоўнае і невыпадковае. У колер страсці пры неабходнасці афарбоўваецца святлом лёгкая белая тканіна крылаў (ад мастака па святле Сямёна Давыдзенкі шмат што залежыць у спектаклі). Але ёсць агульны настрой, на які працуе ўсё ў сукупнасці. Далучаецца яшчэ вонкавы выгляд герояў — над касцюмамі працавала мастачка Валянціна Няборская. Зяць-палюбоўнік Маці (артыст Максім Брагінец) выглядае як спакуснік: дэталі яго касцюма на фоне чорна-шэрых строяў усіх персанажаў маюць чырвоны колер. Сумныя дзеці матчынай ласкі не бачаць і выглядаюць безнадзейна. Безнадзейнасць адчуваецца нават праз тое, як рухаюцца артысты: рэжысёр па пластыцы — Яўген Карняг. Псіхадэлічная музыка Дзмітрыя Фрыгі — нібыта асобны персанаж: часам гаворыць за герояў, ілюструе іх думкі, прадчувае развязку.

Артыст Арцём Курэнь іграе разважлівага сына, які разумее, што маці ўвесь час іх падманвае. Што здраджвала нябожчыку-бацьку. Што фактычна абкрадвала сям'ю дзеля палюбоўніка. Эканамічныя справы ідуць кепска, надзеі на лепшую будучыню няма. Дэпрэсіўная дачка (Ганна Семяняка) абсалютна не падобная да шчаслівай маладой жонкі. У атмасферы фальшу жыць не хочацца, асабліва калі ён сыходзіць ад самага дарагога чалавека — маці. Тая ўвесь час робіць выгляд, што ўсё добра, і старанна іграе сябе добрую. А дзеці, назіраючы, як яна стараецца для сябе, пачынаюць яе шкадаваць: бедная, такая злая. Іх жыццё атручана матчыным эгаізмам. Лепшае (на іх думку), што яны могуць зрабіць, — пазбавіць свет ад яе. Але і ў тых, хто вырас у хлуслівым асяроддзі, няма той будучыні, калі яны маглі б радавацца і радаваць іншых. Яны прыходзяць да самазнішчэння. У пажары павінен згарэць увесь гэты халодны і няўтульны дом. Адна бяда нараджае іншую, больш сур'ёзную, катастрофу для ўсёй сям'і.

Катастрафічнае светаўспрыманне, уласцівае драматургу на мяжы XIX — XX стагоддзяў, было выклікана вынішчэннем маралі, што адбівалася найперш на існаванні сям'і, вядзе да яе разбурэння. Стрындберг гэта адчуў сам і вельмі пакутаваў. Але што тады, што цяпер, што ў Швецыі, што ў Беларусі, наступствы такіх разбурэнняў катастрафічныя.

П'есу для пастаноўкі ў Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі пераклалі на беларускую мову Ірына Гушчына і Андрэй Хадановіч. Пастаноўка ажыццявілася пры падтрымцы Пасольства Швецыі ў Рэспубліцы Беларусь. Стылістыка спектакля дазваляе абстрагавацца ад асобна ўзятай сям'і і пайсці ў высновах далей. Нібыта і лакальная тэма, але калі ўзгадаць сакраментальнае пра «ячэйку грамадства», то ўсё ўспрымаецца зусім інакш. Ад страты маральных арыенціраў, ад абыякавасці і грахоўнасці бацькоў, што вядзе да псіхалагічных траўм і комплексаў, вырастае халоднасць і жорсткасць, якая потым распаўзаецца ў грамадстве і прыводзіць да больш глабальных наступстваў: мяняюцца месцамі плюс і мінус, і ўжо зло ўспрымаецца як норма, гаворыць пра сябе з пазіцыі дабра. І ўсе думаюць: так і трэба. Няўжо толькі ачышчальны пажар — радыкальны сродак выкаранення зла, і застаецца спадзеў толькі на жыццё і справядлівасць «пасля»? Бо яна (ён, яны) ужо не будзе іншай…

**Ларыса ЦІМОШЫК**

# Спектаклі… на экране

## Знаёмства з сусветнымі шэдэўрамі: у Мінску пачынаецца летні сезон *TheatreHD*

**Летні тэатральны фестываль *TheatreHD* зноў чакае гледачоў і дапамагае ім запоўніць паўзу, якая ўзнікла з закрыццём сезона ў тэатрах краіны. У Мінску імпрэза пачынаецца 13 ліпеня і будзе працягвацца да сярэдзіны верасня ў кінатэатры «Цэнтральны».**

У гасцей кінатэатра будзе магчымасць паглядзець на вялікім экране драму, камедыю, оперу з удзелам зорак кіно і тэатра: Рэйфа Файнса, Ванэсы Рэдгрэйв, Лілі Джэймс, Рычарда Мэддэна, Марка Стронга, Ганны Нятрэбка і многіх іншых.

Праект *TheatreHD* — гэта трансляцыі на экранах кінатэатраў выдатных спектакляў з лепшых тэатраў свету, — у прыватнасці, Метраполітэн Опера (Нью-Ёрк), Каралеўскі Нацыянальны тэатр (Лондан), Шэкспіраўскі тэатр «Глобус» (Лондан), Каралеўская Шэкспіраўская кампанія (Стратфард-на-Эйване) ды іншыя. У праграму фестывалю таксама ўваходзяць фільмы-выстаўкі пра жыццё і творчасць вялікіх мастакоў. Мэта праекта — даць магчымасць кожнаму чалавеку ўбачыць шэдэўры сусветнага тэатра і выяўленчага мастацтва, не пакідаючы родны горад.

У праграме ўпершыню заяўленыя паказы трох нашумелых балетаў славутага брытанскага харэографа сэра Мэцью Борна. Адносна яго інавацыйных ідэй спрачаюцца як крытыкі ўсяго свету, так і простыя гледачы. Для паказу на фестывалі выбралі «Лебядзінае возера», дзе партыі лебедзяў выканалі танцоры-мужчыны, «Кар Мэн», у якім аб'ядналіся музыка Бізэ ды Шчадрына і эстэтыка дэтэктыўнага рамана, дзеянне якога адбываецца ў Амерыцы 60-х гадоў. А наканаміты балет Борна «Прыгажуня, што спіць» зусім ператварыўся ў рамантычную гісторыю з вампірамі і дэкадансам. Нестандартнае бачанне аўтара і гумар яго пастановак прыцягвае да мастацтва ўсё больш гледачоў.

Галоўнай падзеяй летняга сезона *TheatreHD* абяцае стаць прэм'ера несмяротнай трагедыі Уільяма Шэкспіра «Рамэа і Джульета», якая адбудзецца ў жніўні. Ролі веронскіх закаханых належаць папулярным кінаакцёрам Лілі Джэймс і Рычарду Мэддэну. Спектакль па задумцы аўтараў будзе паказвацца ў кінатэатрах у чорна-белым варыянце. Акрамя «Рамэа і Джульеты» 13 верасня ў «Цэнтральным» пакажуць новую пастаноўку «Рычарда ІІІ», дзе сыгралі Рэйф Файнс і Ванеса Рэдгрэйв.

Таксама праект *TheatreHD* у Мінску папоўніцца фільмамі-выстаўкамі Філа Грабскі — вядомага дакументаліста з Вялікабрытаніі, які стварае фільмы для кіно і тэлебачання. Яго карціны — унікальныя дакументальныя стужкі, якія распавядаюць пра лёс сусветных шэдэўраў. У кінатэатры мінчукам пакажуць 5 фільмаў: 30 ліпеня — «Імпрэсіяністы», 13 жніўня — «Вінсэнт Ван Гог — новы погляд», 27 жніўня — «Дзяўчына з жамчужнай завушніцай», 10 верасня — «Рэмбрант», 24 верасня — «Манэ: Жыццё на палатне».

Мінскія гледачы змогуць пабачыць не толькі новыя пастаноўкі, але і работы з мінулых сезонаў праекта. Напрыклад, у ліпені мінчукоў чакае паказ італьянскай оперы «Любоўны напітак» на музыку Гаэтана Даніцэці. Адну з галоўных партый у ёй выканала вядомая оперная спявачка Ганна Нятрэбка. Опера будзе паказвацца на італьянскай мове з рускімі субцітрамі. Фестываль працягнецца да канца верасня, затым па традыцыі на змену яму прыйдуць спектаклі новага тэатральнага сезона.

**Ксенія ВЯДЗМЕДЗЬ**

# Васіль КОКТЫШ:
# «Фільмы трэба адчуваць скурай»

**Як у нашыя кінатэатры прыходзяць фільмы? Чаму ў метро так шмат рэкламы стужкі «Дзень незалежнасці 2», а падчас прэм'еры «Дэдпула» ўвесь Мінск быў завешаны білбордамі? Як адбіраюць фільмы для беларускага гледача і што новага чакае яго ў найбліжэйшы час? Адказы на гэтыя пытанні ведае чалавек, які ўжо шмат гадоў «здабывае» для Беларусі сусветныя прэм'еры, дырэктар УП «Кінавідэапракат» Васіль КОКТЫШ.**



## ПРА ТОЕ, ШТО ТРАПЛЯЕ Ў КІНАТЭАТРЫ І ЯК

**— Васіль Пятровіч, вы займаецеся кіно ўжо шмат гадоў, ведаеце пра гэта ўсё, а вось не ўсе гледачы ўяўляюць, як фільмы трапляюць у кінатэатр. Як іх адбіраюць?**

— Складанае пытанне. Адказаць прасцей, калі ведаеш этапы развіцця кінапракату. Быў перыяд, калі стужкі куплялі на кінарынках пасля прагляду, а потым ужо думалі, патрэбны гэты фільм ці не. Здабыць кіно — значыць заключыць дагавор, без папер тут нікуды. Наша праца — гэта не проста кіназабавы, але і марудная праца з дакументамі. На жаль, амаль ніхто гэтага не разумее. Цяпер кінаіндустрыя выпускае нашмат больш фільмаў, чым можа паказаць самая развітая кінасетка. Таму ідзе «натуральны адбор» стужак.

**— Як у Беларусь трапляюць прэм'ерныя стужкі? Ці змянілася штосьці ў механізме паказу?**

— Канечне, змянілася! Раней нам дасылалі копіі фільмаў, мы замаўлялі іх пэўную колькасць. А цяпер транслюем стужкі з інтэрнэту, па электронных ключах. Адсюль і празрыстасць сістэмы: праваўладальнікі могуць прасачыць і статыстыку гледачоў, і рэнтабельнасць стужкі.

**— А ці ёсць фільмы, якія абавязкова трэба паказаць?**

— Вялікія праекты не ўзяць не можам: будуць незадаволеныя і гледачы, і праваўладальнікі. У асноўным гэта камерцыйнае кіно кшталту «Дэдпула». Але ёсць кіно як высокамастацкая каштоўнасць — маю на ўвазе фестывальныя стужкі, эстэтычныя. Кшталту «Шакаладу» Рашдзі Зема. Гэта кіно як мастацтва, але на яго не ідзе глядач.

**— А асабісты крытэрый адбору ўсё ж прысутнічае?**

— Раней такое было, а цяпер — не. Я гляджу прэм'ерныя стужкі разам з гледачамі. Вось са стужкай «Востраў» Паўла Лунгіна атрымалася «пакарыстацца» асабістым крытэрыем. Падчас прагляду ў Маскве я толькі і думаў, колькі копій стужкі прывесці ў беларускія кінатэатры. Кіно цяпер вельмі дарагое, і адгадаць, якое пойдзе, а якое — не, цяжка. З «Востравам» мне пашанцавала. Я ўжо адчуваю фільмы скурай, свайго роду букер — інакш і нельга, калі займаешся кіно.

## ПРЕ ТОЕ, ШТО ЛЮБЯЦЬ ГЛЯДЗЕЦЬ У БЕЛАРУСКІХ КІНАТЭАТРАХ

**— Не так даўно ў нашых кінатэатрах паказвалі «Хардкор». Расійска-амерыканскае. Але ж цікава, якога кіно ў нас больш — расійскага ці замежнага?**

— Атрымліваць і першае, і другое кіно для нас аднолькава. Вялікі расійскі фільм атрымаць гэтак жа цяжка, як і добры, напрыклад, амерыканскі. Калі глядзець па пракаце, то сёлета мы паказалі 26% расійскага кіно, 39% — амерыканскага, 42% — еўрапейскага. І толькі 2 беларускія стужкі.

**— А што з «Хардкорам»? Калі глядач любіць і расійскае, і амерыканскае, то тут ён атрымаў «2 у 1». Як аўдыторыя адрэагавала на прэм'еру?**

— Ведаеце, ёсць стужкі, на якія адразу ўскладаеш надзеі, ёсць такія, пра якія ведаеш: не акупяцца, а ёсць тыя, што праходзяць менавіта так, як чакалася. «Хардкор» з апошняй катэгорыі. Мы не чакалі суперцікавасці, але глядач быў — усё ж праект сумесны, расійска-амерыканскі, моладзевы. Мы вельмі задаволеныя, калі стужкі збіраюць больш, чым думалі. Часам вы бачыце шмат рэкламных банераў па горадзе — гэта прома кінакампаніі, якая не вельмі ўпэўнена ў поспеху стужкі. Напрыклад, рэкламай «Дэдпула» быў завешаны ледзьве не ўвесь горад.

**— Еўрапейскага кіно ў нас шмат. Але, здаецца, галівудскія фільмы цяжка пераўзысці па папулярнасці. Як справы ў кіно еўрапейскіх краін?**

— На жаль, яно для гледача больш спецыфічнага. Мы спрабуем працаваць з усімі краінамі: паказваем нямецкае, французскае кіно, праводзім фестываль «Паўночнае ззянне». Але, нягледзячы на гэта, еўрапейскае кіно ў нас ідзе не вельмі актыўна — усё ж на першым месцы Галівуд і Расія. Нават на стужкі Занусі і Тыквера глядач ідзе не вельмі добра, таму і фільмы "складаныя" паказваем часцей за ўсё ў «Ракеце» і «Перамозе» — там дэманструем арт-хаўс, кіно, як кажуць, «не для ўсіх».

**— А што на першых месцах па праглядах?**

— «Звераполіс». Сёння вельмі папулярная анімацыя — на яе ходзяць сем'ямі. Нават дарослыя мультфільмы глядзяць з інтарэсам. Не ведаю, хто гэты фільм з першага месца зрушыць. Летась «Міньёнаў» не ссунуў ніхто.

«Дэдпул» падаўся гледачу цікавым — ён на другім месцы, а на трэцім — «Зорныя войны». Калі вылучыць 5 лепшых стужак, то на 4-м і 5-м месцах "Той, які выжыў» і «Кунг фу панда». Людзі ідуць у кіно адпачыць, таму і стужкі на першых месцах у большасці забаўляльныя. Некаторыя прыходзяць паказытаць нервы.

## ПРА МЕСЦА БЕЛАРУСКАГА КІНО І ВЫХАВАННЕ ГУСТАЎ

**— А што наконт кіно беларускага? Кінапракат будзе падтрымліваць айчынныя стужкі?**

— Безумоўна! Мы хочам падтрымліваць і беларускае кіно, а галоўнае, можам і робім гэта. Пачыналі з таго, што паказвалі ў кінатэатрах дыпломныя працы выпускнікоў Акадэміі мастацтваў, а цяпер пайшлі і далей: праводзім фестывалі, напрыклад, *Cinema Perpetuum Mobile*. Глядач цікавіцца беларускім незалежным кіно — глядзяць і «Гараш», і «Граф у апельсінах». Усім беларускім стужкам мы гатовыя даваць экранны час, калі пойдзе глядач.

**— Як лічыце, беларусы гатовыя да айчыннага кіно?**

— Не ведаю, ці гатовыя, але дакладна ім цікавяцца. Большая цікавасць, паўтаруся, да аўтараў незалежных. Я і сам хадзіў на першы сеанс стужкі Курэйчыка «Гараш». Там і зразумеў, што аўдыторыі цікава, калі ў кіно паказваюць нашу рэальнасць, з якой іскрай і жартуюць. Глядач ішоў пасмяяцца з сябе і рэчаіснасці. Ядрэнна для рэжысёра, які здымаў фільм для інтэрнэту.

**— У фільмаў цяпер больш забаўляльная функцыя, чым адукацыйная. Але кінапракат можа ўплываць на фарміраванне густаў?**

— Не. Сёння ён ніяк не ўплывае. Я магу меркаваць па сабе: выхаваны на савецкім кіно, калі густы і праўда фарміраваліся. Кіно было добрае, вартае. Людзі праводзілі час за кнігамі, а цяпер інфармацыйныя межы рассунутыя, усё можна знайсці ў камп'ютары: і што трэба, і што не. Глядач стаў абсалютна іншы, больш інфармаваны. Ён плаціць грошы за тое, каб атрымаць перш за ўсё відовішчы. Не проста відовішчы, але і забаву. І гэтага яму мала — ён хоча, каб кіно здзіўляла. Калі гэтага не адбываецца — не прымае і відовішчы. Акрамя відовішчаў патрэбен і сюжэт, і задума аўтара, і экшн, і гумар — спалучэнне жанраў. Доўгі час расійскае кіно трымалася на камедыях пра рускую душу — час прайшоў, цікавасць да такіх фільмаў паменшылася. Здзівіць аўдыторыю стала вельмі цяжка.

**— А ці можа выхаваць густы фестывальнае кіно?**

— Павінен быць глядач. Памятаю, быў час, калі на «Лістапад» квіткі раздавалі бясплатна. А ў апошнія гады праграма настолькі цікавая, настолькі розная, што глядач «разрываецца» паміж паказамі. Арганізатары паказваюць кіно, якое ў пракаце звычайна не ўбачыш. Спадзяюся, што заўсёды будзе глядач, які такімі стужкамі зацікавіцца. На жаль, свет становіцца спажывецкім, а разам з тым з'яўляецца і аўдыторыя спажыўцоў. Гледачоў, якія б хацелі паглядзець мастацкую каштоўнасць, усё менш. Па-сапраўднаму добрае, прыгожае, вартае кіно для душы цікавае меншасці. Глядач любіць, каб ад фільма «разрываўся» мозг.

**— А як прывіць любоў да добрага кіно?**

— Гэта вялізная праца. Людзі сталі цікавіцца здароўем фізічным — гэта не можа не радаваць. Але выхоўваць сябе духоўна — гэта праца яшчэ большая. Трэба прымушаць сябе думаць, чытаць, глядзець. Калі мы кіруемся толькі на забавы, "абкрадаем сябе» духоўна. Свет развіваецца цыкламі, і спажывецкае грамадства калі-небудзь ад самаго сябе пазбавіцца. Тады і катарсіс прыйдзе. А цяпер мы проста павінны гэта перажыць, выхоўваючы сябе духоўна.

## ПРА КІНО ЯК (НЕ)ЗАЛЕЖНАСЦЬ І СУЧАСНАГА ГЛЕДАЧА

**— А вам не здаецца, што кіно сёння — гэта залежнасць?**

— Не, залежнасць — гэта інтэрнэт. Кіно — хутчэй мода. Хадзіць у кіно модна — месца для спатканняў, даступнае. Мы хочам навучыць і дзяцей глядзець кіно як высокае мастацтва. Кіно — гэта яшчэ і рамантыка.

**— Як кіно ўплывае на грамадства?**

— Уплывае моцна, гэта дакладна. За моладзь, якая не ходзіць у кіно, трэба хвалявацца. Мы зрабілі ў Чыжоўцы кінатэатр «Дружба», вельмі шмат у яго ўклалі. Але цікавасці не было. Людзі гатовыя былі куды заўгодна пайсці, ды толькі не ў кіно. Моладзь, якая не любіць кіно сёння, — гэта людзі не дапытлівыя. А кіно на свядомасць і характар добра ўплывае. Як фізічнае здароўе ў тваіх руках, так і духоўнае.

**— Можна сказаць, што ўплыў двухбаковы: і чалавек уплывае на кіно, і наадварот?**

— Безумоўна! Сусветны пракат будзе ісці за патрабаваннямі публікі. Калі мы патрабуем забаву — яе будуць здымаць. Але ёсць і рэжысёры, якія працягнуць здымаць штосьці для душы. Такога кіно будзе ўсё менш, бо ўжо і цяпер яго мала.

**— Кіно працягне існаваць? Усё ж няспынна з'яўляецца нешта новае, а старое памірае. Фільмы застануцца?**

— Скажу на прыкладзе Дэвіда Кэмерана. Ён — адзіны рэжысёр, які ведае, як зняць камерцыйнае кіно. Каб зняць «Аватара», яму давялося стварыць сваю студыю, а цяпер такія спецэфекты мы бачым ледзьве не ў кожнай стужцы. Калі Кэмеран быў першапраходцам, то сёння гэта норма. Але кіно ніколі не памрэ: заўсёды будзе глядач, які хоча паглядзець стужку на вялікім экране. А тэхнічны прагрэс у кінаіндустрыі ідзе сямімільнымі крокамі. Цікава, што будзе з ім далей? Магчыма, галаграмы...

**— Чым цікавіцца сучасны глядач? Што ён хоча бачыць?**

— Глядач сёння нецярплівы: хоча паглядзець не заўтра, а сёння, патрабавальны, дапытлівы, цікаўны. І чаму на беларускае кіно ідуць — на незалежных аўтараў? Гледачу цікава, «а што ж новага ў беларускім кіно»? Бо кінастудыя за многія гады амаль нічога не выпускае — да яе глядач «астыў», а да незалежнага кіно мы не прывыклі, хочам бачыць рэальнасць вачыма тых аўтараў, якія прыносяць сваё бачанне жыцця і ідэі. Калі няма дапытлівасці, свет становіцца нецікавым.

**— Куды коціцца сучаснае кіно?**

— Да забаўляльнасці і спажывання, як і ўвесь свет. Кіно паказвае ці тое, што ёсць, ці тое, што будзе. Я памятаю, як глядзеў фільм Шахназарава «Белы тыгр». Думаў: навошта ён фільм гэты зняў? А калі ўбачыў апошнюю сцэну — зразумеў. Танк, які застаўся незабітым, — гэта дух вайны, які жыве ў свеце і цяпер. Рэжысёр — празорца. Кіно ўсё больш камерцыйнае, таму кіно як прадказанне цяпер рэдкае. Функцыя выхавання кіно будзе, пакуль будуць рэжысёры, якія ўспрымаюць кіно як каштоўнасць.

**— Як чалавек, які адбірае для беларусаў кіно, скажыце: што варта ўбачыць?**

— Што для вас задавальненне — для мяне цяжкая праца. Я прапаную анімацыю! У свой час мне спадабаўся «ВАЛЛ-І». Я быў у яго закаханы: кіно і разумнае, і інтэлектуальнае, і забаўляльнае. А ў чэрвені ў кінатэатрах ішоў "У пошуках Доры» — добры фільм для сямейнага прагляду. Стужка «Вялікі і добры Велікан» Спілберга, які адыходзіць ад камерцыйнага кіно. З цікавага раю яшчэ «Ілюзію падману 2». Думаю, гэта менавіта тыя фільмы, якія ўздымуць летні настрой.

Маргарыта ДЗЯХЦЯР

# Класіка выходзіць на вуліцы

## Сталічны стыль: сімфанічны аркестр ля мінскай Ратушы

Летась паспрабавалі — рэчаіснасць перасягнула чаканні. Серыя канцэртаў «Класіка ля Ратушы» стварыла атмасферу летніх вечароў, паставіўшы Мінск у шэраг еўрапейскіх гарадоў з актыўным культурным жыццём, незалежна ад пары года. Музыканты, натхнёныя магчымасцю іграць для такой вялікай і адкрытай аўдыторыі, выступалі яшчэ і як асветнікі: праводзілі экскурсіі па розных эпохах і музычных стылях. Падкідвалі пытанні, каб разам шукаць адказы. Чаму Сальеры не забіваў Моцарта? Якога кампазітара натхніў Экзюперы?.. Нашы музыканты нават імкнуліся ўпісаць у праграмы канцэртаў творы беларускіх кампазітараў, што асабліва радавала публіку: для кагосьці гэта было цалкам справядліва і заслужана, для кагось станавілася адкрыццём. Былі вечары, калі ля сталічнай Ратушы на класічных канцэртах збіралася каля 12 тысяч чалавек. У тых, для каго класічныя суботы сталі святам, напрыканцы засталося хіба што адно пытанне: ці будзе працяг?

Ёсць! Сёлета цыкл «Класіка каля Ратушы з *Velcom*» пачаўся 9 ліпеня канцэртам сімфанічных шэдэўраў з аб'ёмным 3D-гукам. Творы Вівальдзі, Гайдна, Гендэля, Моцарта, Сальеры, Чайкоўскага, Сібеліуса, Штрауса, Дворжака… Суквецце імёнаў, пазнавальнасць музыкі — усё павінна было сысціся ў першым канцэрце. Таксама «жывая» музыка і тэхналогіі. Яшчэ і размах арганізатараў уразіў. У гэты вечар акрамя ансамбля салістаў «Партыта» на вуліцы, дзе была арганізаваная сцэна ля канцэртнай залы «Верхні горад», іграў Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр Рэспублікі Беларусь (мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор — народны артыст Беларусі Аляксандр Анісімаў). Першы канцэрт — гэта ўводзіны, а для некага, магчыма, і першае знаёмства з акадэмічнай музыкай. Апошні — 27 жніўня — прадставіць беларускую класіку.

«Кожная субота будзе тэматычнай, дзе гледачы, як і музыкі, будуць максімальна ўключаны ў канцэрт», — паабяцаў Аляксандр Чахоўскі, прадзюсар фестывалю «Класіка каля Ратушы з *Velcom*». Цяпер мы фактычна атрымалі міжнародны фестываль на адкрытым паветры, які будзе доўжыцца амаль два месяцы, прадставіць выдатных музыкантаў Беларусі і іншых краін. Некаторыя з іх ужо атрымалі прызнанне, адзначаныя на міжнародных конкурсах, а некаторыя толькі пачынаюць заваёўваць слухачоў. Як наш юны піяніст Уладзіслаў Хандогій, які ўразіў майстэрствам прызнанага майстра Дзяніса Мацуева. Разам з ім будзе іграць Кірыл Кедук, ужо вядомы і прызнаны за мяжой. Ці ўявіце — пачуць на вуліцы спевака Юрыя Гарадзецкага, які запатрабаваны ў розных тэатрах свету! А цымбалы Веранікі Прадзед — што яшчэ трэба, каб ганарыцца беларускай музычнай культурай? Хадзіць і слухаць. Сваіх кампазітараў, нашых сучаснікаў — яны пішуць музыку пра нас і для нас, як гэта калісьці рабіў Манюшка. Але сёння можна паслухаць творы Аляксандра Літвіноўскага, Галіны Гарэлавай ды іншых кампазітараў. Хадзіць і слухаць, каб пазнаваць і ведаць сваіх зоракмузыкантаў. Тым больш што гэта падарунак — усе канцэрты бясплатныя, таму што для нас!

«Гэта атмасферны фестываль, на канцэрты якога людзі прыходзяць не проста паслухаць музыку, але і сустрэцца з сябрамі, прагуляцца па Старым горадзе, атрымаць асалоду ад зносін. Дзякуючы праекту мы разумеем, што цікавасць да класікі расце, што яна перастае ўспрымацца як нешта сухое і закрытае», — адзначыла Наталля Куцан, дырэктар міжнароднага сацыяльна-эканамічнага фонду «Ідэя», які з'яўляецца арганізатарам цыкла канцэртаў у партнёрстве з Мінскім гарадскім выканаўчым камітэтам пры падтрымцы кампаніі *Velcom*. Да вялікай колькасці зацікаўленых арганізатары падрыхтаваныя: на вялікім экране будзе адлюстроўвацца ўсё, што адбываецца на сцэне. Для дзяцей з'явіцца інтэрактыўная пляцоўка.

**Марыя АСІПЕНКА**

### У наступных канцэртах:

**16.07. Піяністы-геніі і «Музычная дуэль Павароці і Сінатры».**

— Лаўрэаты міжнародных музычных конкурсаў Уладзіслаў Хандогій і Кірыл Кедук.

— Шоу-канцэрт «Музычная дуэль Павароці і Сінатры» з удзелам саліста Цюрыхскай оперы тэнара Паўла Пятрова, барытона Антона Мартынава і *MuzzicDom Orchestra* пад кіраўніцтвам дырыжора Уладзіміра Авадка (асістэнта Рыкарда Муці). Падчас вечарыны арганізатары збіраюцца памераць сілу апладысментаў, каб вызначыць, каму належыць сэрца Мінска: Сінатру або Павароці!

**23.07. Вечар музыкі Барока — падарожжа ў часе.**

Творы А. Вівальдзі, І. С. Баха, Г. Ф. Гендэля, Г. Ф. Тэлемана будуць выкананы малымі ансамблямі і аркестравым складам «Камерныя салісты Мінска» пад кіраўніцтвам маэстра Дзмітрыя Зубава (Расія). У канцэрце возьмуць удзел салісты Вялікага тэатра Беларусі Юрый Гарадзецкі, Наталля Акініна, Маргарыта Ляўчук. Салісты з Расіі: Руст Пазюмскі (віёла да гамба), Яўген Свірыдаў (барочная скрыпка), Канстанцін Якаўлеў (барочны фагот і барочны габой).

**30.07. Класіка па-іспанску.**

Піяніст Альфрэда Авaес, гітарыстка Андрэа Гансалес Кабальера разам з беларускім віяланчэлістам з Германіі Мікаэлем Самсонавым і скрыпачом Алегам Яцынам выканаюць класічную і аўтэнтычную іспанскую музыку. Чакаем фламенка!

**06.08. Музыканты-вундэркінды Беларусі і інтэрактыўны канцэрт з Аркестрам.**

— Дзеці-музыканты, лаўрэаты музычных конкурсаў іграюць сольна і ў суправаджэнні аркестра.

— Інтэрактыўны канцэрт, які складаецца з п'ес М. Бронэра для слухачоў з аркестрам ды інтэрактыўнай п'есы «Вось бы» Я. Падгайца з удзелам гледачоў, выканае Дзяржаўны камерны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам Яўгена Бушкова (Расія).

**13.08. Музычныя жарты, танга, музыка савецкага кіно і класіка ў джазе ў «Музычнай гасцёўні Таццяны Старчанка».**

— «Класік-джаз-трыа» — ансамбль, які выконвае вядомую класіку ў джазавай апрацоўцы. Таццяна Старчанка (фартэпіяна), Андрэй Баранаў (кантрабас), Ігар Аўдзееў (ударныя).

— Квартэт *V.S.O.P.* выканае музыку танга з вядомых фільмаў.

— Салісты праекта «Музычная гасцёўня» будуць жартаваць ды іграць творы з любімых савецкіх фільмаў. Салісты: Кацярына Архіпава (скрыпка), Дзяніс Парэчын (кларнет), Станіслаў Петчанка (віяланчэль).

**20.08. Музыка, народжаная ў Галівудзе з аркестрам з Магілёва і дырыжорам з Венесуэлы, а таксама саюз арфы, флейты і балета.**

— Кацярына Жураўлёва (арфа), Яўген Віданаў (флейта), Міхаіл Канстанцінаў (марымбе і вібрафон) выканаюць некалькі класічных і сучасных музычных нумароў, у дапаўненне — класічная харэаграфія.

— Сімфанічны аркестр Магілёўскай капэлы пад кіраўніцтвам маэстра Херарда Эстрада Марцінеса (Венесуэла) выканае музыку з самых вядомых кінафільмаў сучаснасці: «Зорныя войны», «Піраты Карыбскага мора», «Тытанік», «Гульні тронаў» ды інш.

**27.08. Закрыццё фестывалю. Струнны квартэт з Польшчы і музыка Беларусі XIX — XX стагоддзяў у выкананні *MuzzicDom Orchestra*.**

— Венскую класіку, польскую і беларускую музыку С. Манюшкі выканае струнны квартэт з г. Катавіцэ *Altra Volta.*

— Выдатная акадэмічная музыка зямлі беларускай у выкананні *MuzzicDom Orchestra* пад кіраўніцтвам Івана Касцяхіна. Уверцюры і арыі з опер С. Манюшкі «Галька», «*Verbum Nobile*» і «Страшны двор», аркестравая сюіта А. Літвіноўскага, музыка Я. Глебава і В. Кузняцова, канцэрціна для цымбалаў з аркестрам В. Кур'яна, канцэрт для дзвюх труб з аркестрам Г. Гарэлавай. Упершыню за ўсю гісторыю існавання з пачатку XX стагоддзя прагучыць сюіта Людвіга Рагоўскага. Салісты Вялікага тэатра Беларусі і Музычнага Дома «Класіка»: Віктар Мендзялеў (тэнар), Маргарыта Ляўчук (сапрана), Настасся Храпіцкая (сапрана), Арцём Хамічонак (барытон), Вераніка Прадзед (цымбалы). Музычная частка будзе дапоўненая эмацыянальнай танцавальнай імправізацыяй.

*ВыДАТна*

# Магутнасць басу



Заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Алег Мельнікаў 13 ліпеня адзначыў 55-годдзе. Бас Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра, лаўрэат міжнародных конкурсаў, стаў салістам опернай трупы ў 1993-м годзе. Дагэтуль ужо спяваў у Адэскім дзяржаўным акадэмічным тэатры оперы і балета, з якім стаў супрацоўнічаць яшчэ падчас вучобы ў кансерваторыі. Але пачынаў сваю прафесійную адукацыю спявак у Беларусі: скончыў Мінскі дзяржаўны музычны каледж імя Глінкі.

Алег Мельнікаў запатрабаваны ў Беларусі і за яе межамі, прычым не толькі як спявак: ён яшчэ і ажыццявіў пастаноўкі опер. Але ўсё ж адметны голас, нездарма ён з'яўляецца старшынёй Беларускага Таварыства імя Шаляпіна. Спявае і дзеліцца майстэрствам з моладдзю.

**Марыя АСІПЕНКА**

# Партыя Ленскага ці Альфрэда з «Травіяты»?



## Беларускі ўдзельнік тэлешоу «Вялікая опера» выбірае, што спяваць

Юрый Гарадзецкі, тэнар Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі, возьме ўдзел у вядомым тэлепраекце, які пачнецца ў верасні на расійскім тэлеканале «Культура».

Менавіта тэатр вызначаў свайго ўдзельніка ў «Вялікай оперы» — сёлета арганізатары дасылалі запрашэнні ў оперныя трупы тэатраў постсавецкай прасторы. Артысту нічога не заставалася, як пагадзіцца і задумацца пра падрыхтоўку і выбар рэпертуару. Гарадзецкі задзейнічаны ў шмат якіх оперных спектаклях Вялікага тэатра Беларусі, але тэлепраект патрабуе асаблівага падыходу. Добра, што ёсць у каго спытаць парады: раней праз гэты праект прайшоў барытон Ілья Сільчукоў, які стаў у выніку трэцім.

Юрый Гарадзецкі і сам мае вялікі досвед конкурсных выступленняў: ён быў фіналістам Міжнароднага конкурсу вакалістаў «Бі-Бі-Сі» ў 2013 годзе (Кардзіф, Уэльс, 2013), лаўрэат VII Міжнароднага конкурсу вакалістаў імя Станіслава Манюшкі (Варшава, 2010), лаўрэат Міжнароднага конкурсу імя Каралевы Лізаветы ў Брусэлі (2008). Але спачатку спевака заўважылі ў Беларусі: Гран-пры Спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі ён атрымаў у 2006-м. Тады ж стаў салістам Вялікага тэатра Беларусі. А ў 2012 — 2014 гадах удзельнічаў у Маладзёжнай опернай праграме нацыянальнай оперы Вашынгтона. Меў сольны канцэрт у кансерваторыі Манрэаля.

Але тэлепраект — гэта ўсё ж шоу, дзе трэба і паказаць выканальніцкі ўзровень, і запомніцца не толькі прафесіяналам, але і больш шырокай тэлеаўдыторыі. Нездарма тэмы праграм прадугледжваюцца самыя розныя: італьянская музыка, руская класіка, Моцарт і Вердзі, праграмы-прысвячэнні вялікім артыстам, напрыклад, Галіне Вішнеўскай, і г. д. Усяго 11 праграм «Вялікай оперы» запланавана на тэлеканале «Культура». Акрамя таго, напрыканцы года адбудзецца гала-канцэрт, у якім на сцэне Маскоўскай кансерваторыі выступяць усе, хто прайшоў праз праект ад самага пачатку.

**Марыя АСІПЕНКА**

# Натхнёныя прыродай

## выпускнікі Акадэміі мастацтваў прэзентавалі новы праект



*Вольга Шкаруба «Стары масток», 2015 г.*

Вернасць прынцыпам класічнага мастацтва альбо кардынальная змена класікі на сучаснае? Што сёння выбіраюць пачынаючыя мастакі? Маладыя аўтары, выпускнікі Беларускай акадэміі мастацтваў Вольга Шкаруба і Вадзім Богдан лічаць, што мастацтва найперш павінна быць розным і арыгінальным, каб не дакучала, не станавілася штодзённым, стэрэатыпным. У ліпені маладыя мастакі прэзентуюць новы выставачны праект «На маёй зямлі». Выстаўка працуе ў галерэі «Мастацтва».

Назва экспазіцыі гаворыць сама за сябе. Беларускія краявіды, як урывак меладычнага сну, праносяцца ў памяці зноў і зноў. Лясы, рэкі, дрэвы, палі… Усё знаёмае, але ад гэтага не менш дарагое. Мастацтва сапраўды ажыўляе, прыўносіць у прастору свежае паветра і гармонію. Рыхтуючы выстаўку, мастакі падзялілі выставачную плошчу на чатыры часткі, кожная з якіх — куток для сваёй пары года. Аглядваеш зімнія пейзажы — і адразу ж прабірае настальгія: першы снег, маразы і, канечне, навагоднія святы. Але цяпер на дварэ лета, таму лёгка перастройваешся на новыя думкі і пераходзіш на «цёплыя» творы. Аранжавыя восеньскія кампазіцыі ствараюць атмасферу цёплай утульнасцю, а вясновыя — нагадваюць пра першае сонейка.

Нягледзячы на сумесную прэзентацыю праекта, творы аўтараў адрозніваюцца. У пейзажах Вольгі Шкаруба заўважаецца сувязь прыроды з эмацыянальнымі рысамі. Мастачцы падабаецца расстаўляць акцэнты на пэўных з'явах прыроды. Яе карціна «Яблыні спакойны колер» дэманструе квітненне, маладосць прыроды. Белая прыгажуня, нібы сціплая нявеста, рыхтуецца ўступіць у сур'ёзны перыяд жыцця. А палатно пад назвай "Лясное святло" нагадвае складаны чалавечы лёс: сярод цяністай сцежкі праз раз сустракаюцца праблiскі святла. У адрозненне ад Вольгі, Вадзім Богдан у творах абавязкова выдзяляе галоўнага героя. Ён можа



*Вадзім Богдан «Новае жыццё», 2016 г.*

пісаць пейзаж альбо нацюрморт, але канцэпцыя не змяняецца. Над яго творамі трэба разважаць. Напрыклад, карціна «Новае жыццё» дэманструе, як на ствале дрэва з'яўляецца невялічкая галінка, на ёй толькі што пачало распускацца зялёнае лісце. Вобраз нараджэння жыцця прасочваецца і як лейтматыў цэласнай творчасці аўтара.

У маладых мастакоў ёсць агульная мэта — адкрываць гледачам невядомыя ісціны ва ўспрыманні навакольнага свету. І менавіта іх не замыленае бытавымі і штодзённымі працэсамі вока адчувае, наколькі блізка можна бачыць прыгажосць. Цікава, што акадэмізм, напэўна, набыты аўтарамі падчас навучання, ніколькі не абмяжоўвае іх унутраную свабоду і дазваляе развіваць патэнцыял, дазваляе імкнуцца да новых мастацкіх кірункаў. Іх творчае самавыяўленне праяўляецца не толькі ў якасці работы, але і ў падрыхтоўцы сюжэтаў, пошуках важных тэм.

Дыяпазон выбраных тэм мастакоў дастаткова шырокі. І Вольга, і Вадзім аддаюць перавагу прыродным матывам, але не пакідаюць гарадскую тэму. Калі-нікалі аўтары спрабуюць імправізаваць, сінтэзуючы яе з сацыяльным аспектам, іншым разам зноў сумяшчаюць з прыроднымі матывамі. Імпэт аўтараў невычарпальны, бо яны заўсёды існуюць у пэўнай асаблівай атмасферы. Адсюль — натхненне і гармонія.

Экспазіцыя «На маёй зямлі» — не першы мастацкі праект Вольгі Шкаруба і Вадзіма Богдана. На рахунку мастакоў ужо некалькі персанальных выставак, якія выклікалі цікавасць у гараджан. Сённяшні мастацкі праект аўтарскага тандэма сведчыць пра актыўную працу, пра цікавасць да таго, што адбываецца побач.

**Вікторыя АСКЕРА**



*Вадзім Богдан «На заходзе дня», 2015 г.*

## Культурны ракурс

У верасні 2004 года ў вёсцы Чыжэўшчына, што ў Жабінкоўскім раёне, была адкрыта мемарыяльная капліца ў памяць пра воінаў, якія загінулі падчас Крупчыцкай бітвы — адной з ключавых ля сцен Крупчынскага кляштара падчас паўстання 1794 года пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі.

Чаму бітва Крупчыцкая? Справа ў тым, што калісьці Чыжэўшчына ўшчыльную прымыкала да вёскі Крупчыцы, але цяпер два паселішчы аб'ядналныя ў адно і маюць агульную назву — Чыжэўшчына.

Узгадваючы бой, нельга абмінуць гісторыю манастыра. Падчас бою кляштар быў разбураны. Манастырскі касцёл, які знаходзіўся непадалёк, перастварылі ў прыходскі, а пазней, у 1866-м, пераабсталявалі пад праваслаўную царкву, якую знішчыў пажар 1882 года. Праз месяц было прынята рашэнне аб узвядзенні на гэтым месцы новай царквы. Аднак дазвол на будаўніцтва з-за розных акалічнасцей удалося атрымаць толькі праз чатыры гады! Першы камень заклалі ў 1891-м. Дарэчы, камяні ўзялі ад разбуранага кляштара. Адкрыўся храм ў 1884 годзе да стагоддзя Крупчыцкай бітвы.

У 1967-м царкву закрылі, і яна доўгі час знаходзілася ў запусценні. Храм вярнулі вернікам толькі ў 1989 годзе.

**Святлана ЕРМАКОВА**



*Каб узяць удзел у конкурсе, дасылайце свае фотаздымкі на электронны адрас **lim_new@mail.ru** з пазнакай **«Культурны ракурс»** — лепшыя будуць апублікаваныя на старонках газеты!*

*Галоўныя ўмовы творчага спаборніцтва: цікава і арыгінальна сфатаграфаваць помнік гісторыі і культуры Беларусі (магчыма, на тэрыторыі іншай краіны) ці сфатаграфавацца каля яго. Прымаюцца і работы, зробленыя ў жанры сэлфі.*

*Рэдакцыя чакае не толькі ўдалага фота, але і лаканічнага, пераканаўчага тлумачэння, чаму менавіта гэты помнік падаецца вам самым значным. А таксама канкрэтных звестак пра аўтара здымка (імя, прозвішча, месца працы альбо вучобы, кантактныя дадзеныя). Аўтар можа даслаць некалькі фота. Пры адборы работ будуць улічвацца не толькі мастацкія якасці здымка, але і яго канцэпцыя, пераканаўчасць тэксту-тлумачэння.*

*Чакаем вашых фота на працягу ўсяго 2016 года і разлічваем на нязменную цікавасць да беларускай культуры!*

ЛіМ
**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**

**Заснавальнікі:**
**Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі», рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»**

**Галоўны рэдактар**
**Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК**



**Адрас рэдакцыі:**
**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

**Адрас для карэспандэнцыі:**
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.main.lim.by

**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Падпісныя індэксы:**
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
Г. Я. Палякова

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 14.07.2016 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1649.

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 2585

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



ISSN 0024-4686